Няхай жыве саюз рабочых і сялян.

# Чырвоны сейбіт

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“.

№ 3 (23). САКАВІК 1928 г. №3(23).



Адпраўка насеньня з Менску з Цэнтраземскладу ў вёскі Случчыны.

## Прадвесьня

П. Мяцельскі

Падходзіць вясна залатая.
З усьмешкай ідзе на твары,
І радасьць палёткі вітае
Вясёлай усьмешкай зары.

І ласкава сонца глядзіцца,
Глядзіцца ў блявую сінь.
Хачу я агнём запаліцца
Вясковых бурлівых хвілін.

Хачу я з вясною абняцца.
І разам з вясною ісьці.
Хачу я вясною ўпівацца
Прыгожаю кветкай цьвісьці.

Вясьна сёньня кідае лёзунг—
Прэч з вёскі сумоту і змрок.
Ня будуць цячы з вачэй сьлезы,
На жоўты сыпучы пясок.

Сонца гуляе з вадою.
З боку балота і гай.
О, як прыгожа вясною
Будзе цьвісьці родны край.

# Веснавыя хмаркі

## Л. Чарняўская

### I.

Невялічкая лямпачка, павешаная на сьцяне, скрывілася на бок. Тонкі язычок агню правёў чорную палоску сажы па шкле і чадзіў перагарам газы.

Але і гэтае скупое сьвятло будзіла мух у хаце. Заспаныя, наляталі яны на гарачае шкло, апякалі крыльле і валіліся далоў. Іншая муха трапіць у самы агонь, пырсьне тады агонь на хвіліну ўгэру, потым ізноў хрыпіць ён праз брудную закапцелую гарэлку.

Сьпіць уся хата. Куды ні паслухай— чуваць соннае сапеньне. Толькі ў асьвятлёным кутку хаты рыпае і рыпае пад рукою калыска. Часам, зморапая сном, звэліцца рука з берагу калыскі ўніз, тады зараз-жа падае голас дзіця ў калысцы. Плача хваравітым сіплым голасам.

Змагаецца са сном маладзіца. Ї нічога на сьвеце цяпер так ня хоча, каб толькі спаць, спаць...

А як засьнеш, калі і напоўхвіліны рукі ад калыскі адвесьці ня можна?

— І чаго ты вяркаеш?—уголас пытаецца, жаліцца маладзіца.—Калі баліць што, дык чаго маўчыш, як калышу?

Дзіця ляжыць ціха.

— Сьпяць усе,—кажа яна, памаўчаўшы троху.—Адна я з ім гарую. Удзень разойдуцца хто куды, а я ўсё ў хаце, усё пры калысцы. Я, здаецца-б, самую цяжкую работу рабіла, каб толькі не сядзець сіднем дзень і ноч.

Каб больш разагнаць соп, яна ўстае, калыша калыску паволі ўсё цішэй і цішэй, потым, ня чутна ступаючы, адчыняе паціху дзьверы і выходзіць на двор.

Цёплая веснавая ноч. Час пад зару бліжыцца. Повялічкі вецер цягне ад саду яблынавым цьветам. Бялеюцца ў начной цямноце яблыні, ігрушы.

Зямля сыра. Прыемна стаяць босымі нагамі і падстаўляць усё зморапае, разьбітае, спаранае ў душнай хаце цела ласкавай прахалодзе ночы.

Пачула яна, як заплакала дзіця ў хаце. Спачатку яно дужа моцна, а потым зайшлося плачам на ўсю сілу.

Але яна стаіць, ня йдзе. Ня можа адарвацца ад веснавой ночы.

Першы раз за ўсё сваё жыцьцё адчула, як гэта добра стаяць аднэй упоцемку, калі так і сьвежай, яшчэ не згубіўшай веснавой вільгаці, зямлёй пахне, калі цьвітуць дрэвы ў садзе, а маладзенькія, толькі разьвернены лісточкі на памаладзеўшых дрэвах пахнуць клейкім сокам. Ціха, ціха ўсюды, толькі далёка дзе вурчаць і крэкчуць устрывожаныя вясной жабы, ды гаўкае зрэдка які руплівы сабака.

Плач дзіцяці, які даносіцца да вушэй маладзіцы, ня трывожыць яе. Падумала і супакоіла сябе.—Можа-ж, нарэшце, хто ўстаць і пакалыхаць яго. Ї стаіць.

Калі была дзеўкай, ніколі і ўгалаве-б ня стала стаяць так аднэй. Каб яшчэ з кім, ды й то не аб такой позьняй пары. Ой, які тут сон у яе быў, як была дзеўкай. Будзяць, будзяць ураньні, ледзь дабудзяцца.

Цяпер спаць адвучылася. Адразу, як нарадзілася дзіця, з першых дзён пайшло ня ў лад.

Думалі, абойдзецца. Можа, што на маладзіку арадзіўся, таму крычыць, але пакрычыць, пакуль маладзік пераменіцца і сьціхне.

Сьвякроў кажа, што няхрышчонае дзіця, таму яно такое. А хто яго ведае, ці праўда гэта? Панас кажа, што не. „Ты,—гаворыць,—лепш дома яго ў цёпленькай вадзіцы пакупай, чым поп будзе дзіця ў халоднай вадзе боўтаць.

Ї ўжо як стала думаць пра хваробу дзіцяці, згубіла адчуваньне хараства ночы. Золка стала. Чула, што чапае нехта калыску, маўчыць дзіця. А ўсё роўна йсьці ў хату трэба,—ня век тут халадацца.

Пазяхнула да болі ў сківіцах, пацягнулася ўсім прагным да сну целам і пашла ў хату.

Калыхаў дзіця сьвёкар. Высокі, худы, у белым порцьці стаяў ён ля калыскі і на скрып дзьвярэй ускінуў вочы на нявестку.

— Во ходзіш, дык ходзіш...—буркнуў ён.

— Жывот балеў,—зманіла, каб апраўдзіць сябе маладзіца.

Не казаць-жа ёй старому, што стаяла яна і слухала вясну.

II

— Адна рада, Мар'я,—казала сьвякроў нявестцы ўдзень.—Адна рада—аксьціць дзіця. Сяговьня зносім да папа, бо з двара ўсе парасходзіліся. Ніхто і ведаць ня будзе, куды мы пойдзем.

Абедзьве яны стаялі ля калыскі і глядзелі на распавітае дробненькае, аж сіняе цельца дзіцяці.

Пэўнасьць голасу старой пераконвала маладзіцу.

— А як-жа Панас?—запярэчыла ўсё-ж Мар'я, хоць была ўжо зусім пэўна ў тым, што трэба ахрысьціць дзіця.—Панас-жа казаў, што з хаты мяне прагоніць і з дзіцёнкам разам...

— Не прагоніць,—супакоіла старая.—Ты-ж сама бачыш... І доктара мы прывозілі і да самага галоўнага доктара ў горад вазілі, усіх шаптуноў абышлі, ніхто не пасобіў. А дзіця ўсё мучыцца, усё трудзіцца, а таму што мірам ня мазана, у сьвятой купелі ня купана. Я-ж кажу табе, што Панас і ведаць ня будзе. Ён у млын паехаў, да вечара ці вернецца. А мы на сяло да бацюшкі ціханька зьбегаем, а ў двары скажам Панасу, што да шаптуна насілі.

Мар'я яшчэ вагалася, хоць у яе шавялілася ўжо надзея, што такім лёгкім спосабам дзіця пазбавіцца хваробы.

— Ты зьбірай дзіця ў дарогу, а я пайду сырок выну бацюшку ды палатну на хрэст адрэжу,—падганяла маладую сьвякроў.

Да сяла было вярсты чатыры дарогі. Несьлі дзіця наперамену. Яно, ускалыхнуўшае мернай хадой, спала. Тварык быў белы, васковы, тусклай палоскай бліщчэлі вочкі з-пад ня шчыльна спушчаных павек. Капелечкі поту абрасілі лоб і ўпадзіны носа.

Глядзела на яго Мар'я з жаласьцю.

— Іншы раз—загаварыла яна,—дужа ён мне дакучыць, ня стрымаюся, скляпуся, каб ты кончыўся ўжо лепш, задурыў мне галаву. А потым язык сабе гатова вырваць за гэткія словы. І бабы прыдуць, кажуць: «А неўдалюга, скарэйбы ён дайшоў. Ім гэта лёгка казаць, а мне іхвія словы—нож у сэрца. Хай-бы ўжо гадаваўся...

— Жыў будзе,—пацешыла сьвякроў.—Ніводзін дзіцёнак бяз крыку ня вырас. Калі меншы—спакойны, большы—сваё адкрычыць. Ахрысьціць бацюшка, дык належ'е. А калі і памрэ, дык усё хрышчоны. Я ўсё баялася, каб ён бяз ксту не памёр.

Маладзіца прытуліла пясьнеў дзіця да грудзей і ўжо думала: навошта яго хворага турбаваць, Панаса гневаць, калі тое, што ахрысьцяць яго, яму не дапаможа.

— Дурная ты,—адгукнулася сьвякроў,—хочаш, каб яго душа па сьвеце блудзіла; яе-ж ні ў рай, ні ў пекла ня прымуць. Ды жыў будзе, убачыш—палепшае.

Міналі малады бярэзьнічак. Клейкае лісьцейка на бярозах зелянелася тэй веснавой зелянінай, якая трымаецца можа пару дзён якіх, а потым робіцца звычайным гладкім зялёным бярозавым лісьцём, маладым, але звычайным, тым, якое нібы само просіцца на венікі.

Але Мар'я не разглядалася па бакох, ня нюхала, як уначы тады, клейкі пах маладога лісьця, ступала цьвёрда, роўна, каб хутчэй данясьці дзіця.

Ахрысьцілі яго скора. Цяпер і адрэз палатна папу дараг стаў, як перасталі класьці зьвязаных авец ды парасят у царкве пад якім важным абразом.

Як макалі дзіця ў ваду, не сваім голасам крычэў хлопчык.

Кумы і сьвякроў варажылі на добрае.

— Крычэў дзіцёнак,—казалі,—бо нячыстая сіла грахі бацькоў з яго да сябе забірала. Добры знак—жыў будзе. А калі ня пісьне дзіця ў часе ксту, дык значыць памерці яму суджана...

Гасьцяваць у радні на сяле яны не засталіся. Сьпяшаліся дамоў, каб у вочы

каму ня кінулася, што доўга ходзяць чедзе ды й двор бяз баб надоўга кінуць нельга.

Хлопчык Васілёк (яго і раней Васілём запісалі, і поп Васілём ахрысьціў), як дамоў яго прынясьлі, непакоіўся, кідаўся на руках у маткі, потым здаўся, заснуў і так моцна, што і мужчыны на абед папрыходзілі, а ён усё спаў не калыханы.

Мар'я паверыла таму, што ахрысьцілі дзіця, дык яно адразу і палепшыла і ўжо не хацела хавацца з гэтым перад мужам,— прызналася, што сягоньня з дзіцём зрабілі. І гневу Панасавага ня дужа спалохалася.

— Ну і бяры яго сабе цяпер!—бразнуў лыжкай аб стол Панас.— Я яго жалеў, грошы не шкадаваў лячыць, думаў сваё давесьці, што і без папа ён вырасьце чалавекам. А цяпер мне ўсё роўна... Цяпер няхай і паміраe—такая матка, як ты, на што добрае навучыць.

За нявестку разам уступіліся старыя Маці лагодна старалася пераканаць сына, а бацька бурчэў, сярдзіта бурчэў і ня толькі на сына, а на ўвесь сьвет цяперашні.

Жонка нецярпліва чакала сваей чаргі гаварыць. І зазьвінела голасам.

— Ты глядзі, калі ён стаў так, а? І дактары лякарства давалі, і самі мы лячылі,—і нічога. А цяпер глядзі, як сьпіць.

Але Панас не глядзеў, згроб шапку ды ходу з хаты.

Закалыханы мернай хадой па дарозе, абвеяны чыстым паветрам палёў, скрычаўшыся ў часе хрышчэньня, спаў хлопчык доўга. Толькі раз-по-раз хапаўся ўва сьне; дрыжэлі павекі, падварачваліся вочкі пад лоб, крывіліся вусны ў немым плачу.

А ноч была, як і ранейшыя ночы. Спалі ўсе. Аднэй Мар'і, як і раней, ня было сну. Кідаўся, плакаў хлопчык. І бесьперастанку калыхалася калыска «рып-рып».

Нявесела Мар'і. Адляцела тая кароткая пацеха, што палепшае хлопчык.

Як слабы агоньчык, цепліцца ў ім жыцьцё. Загарыцца калі часам агонь сільней, засьвеціцца слабай усьмішкай дробны з кулачок тварык. Але відаць, што скора зусім пагасьне агонь.

Усе ведаюць, што памрэ дзіця. І ўсе, хоць ня кажуць, а думаюць: няхай-бы ўжо не цягнуў!

Ціхі ён стаў. Ляжыць у калысцы, і і дзень і ноч нібы дрэміць.

Гляне на яго бацька, і жаль бярэ яго за сэрца і гнеў у ім будзіцца. як успомніць, што ня выцерпела, панесла хрысьціць дзіця жонка.

Стаіць яна вось побач калыскі, вінаватымі вачыма паглядае на Панаса; зьбялела ўся, ссохла ад бяссонных ночак— даўся ёй добра ў знак сынок.

І шкода яе Панасу, гаварыць з ёй не ахвота. Скажуць адно два словы—на тым і ўся іхняя гутарка.

А поўдні гарачага, як лета, майскага дню памёр хлопчык.

Як захліпаў ён, хапаючы паветра, кінулася старая ў скрыню па сьвечку, каб сьвятней адходзіў ён на той сьвет.

Але сын спыніў матку адным цьвёрдым: «ня трэба!»

У выкапаную ямку апусьцілі невялічкую труну.

Сьветла-жоўты пясок, раскіданы кучкамі па бакох ямы, нібы цешыўся, што ўбачыў вольны сьвет, убачыў зялёныя нівы, дзе маладая рунь ужо цягнулася ў колас, а ўзараная, засеяная пад ярыну зямля чарнелася, поўная надзеі нарадзіць новае жыцьцё.

Пад шырокімі ўзмахамі рыдлёўкі сыпаўся сьвежа-жоўты пясок назад у ямку, глуха стукаючы па невялічкай труне.

Зараўнялі рыдлёўкі грудок пяску над магілкай.

Старыя могілкі абсаджаны крыжамі густа. Умíралі ў свой час людзі.

Стаяць старыя высокія крыжы, цягнуцца ўгару. Пазаімшэла, пачарнела дрэва на іх, паабвісалі, пазваліваліся на зямлю перакладзіны, тырчаць адны струхнелыя палкі.

Жоўтай кучачкай падымаецца магілка дзіцяці. Крыжа на ёй няма. Яна першая такая сярод гэтага сухастою.

Плача Мар'я адна ў хаце. І памінальнага абеду не дазволіў Панас. Бацькі пазагневаліся, вышлі з хаты, работай заняліся, каб лягчэй ім было на сэрцы. А Мар'я рабіць нічога ня можа, плача адна ў хаце.

Шкода ёй свайго малога бядульку. А паміж жалю прабіваецца думка, што калі памёр хлопчык, можа цяпер вузёл той разьвяжацца, што паміж ёй і Панасам завязаўся.

Падыйшоў і Панас. Глянуў на жонку і як-бы адчуў яе думкі.

— Ня плач, Марутка!.. хворы ён і нарадзіўся. Усё роўна-б ня жыў. А тады я на цябе моцна скрыўдзіўся.

Калі ўжо жыць разам, дык і думаць трэба адно разам. Бацькі няхай сабе, яны —старыя, сварыцца з імі я не хачу. А ты-ж маладая, мая жонка, мне не паверыла. Добра што так вышла, бо ўсё роўна памёр-бы Васілёк. Вы тады-б усе на мяне былі: «Чаму ня кьсціў, чаму ня кьсціў?» Будзеш цяпер ведаць старую праўду? У новы век, жоначка, і праўда новая.

Ласкавай рукой заправіў ён абвіслую пасмачку валасоў за жончына вуха, і ласкава, як свой родны чалавек, паглядзеў у заплаканыя вочы.

# Прастор

**С. Дзяцел**

Зіма! Зіма! Красуе іней.
Сівее ў шэрані мароз,
Бялеюць срэбныя даліны
Пад срэбнай наквецьцю бяроз.

Як бельлю выткаліся далі,
Стануў у замецях быльнёг,
І у зыбучых сьнежных хвалях
Цьвіце бязьмежна на палёх.

Якая шыр! Станулі межы.
Я сам ня ведаю чаму
Люблю асьнежнае бязьмежжа
У срэбразорную зіму.

Зіма! Зіма! Ў прасторах іней
Ад буйнай радасьці, бяз слоў,
Трапеча захад журавінай,
Дзе ў кволай наквеці сяго.

Хачу сьпяваць; як у прадвесьні
Да сьлёз, да болю у душы
Хачу абняць у шчырых песьнях
Палёў асьнежаную шыр.

На гэтых вось шырокіх гонях
Сваю душу хачу аддаць.
Аддаць у любае сягоньня...
Такая шыр! Такая даль!
А навакол гаі, дубровы...
У белай шырыні сьнягоў
Сваю згубілі каляровасьць
Як шопат казачны лістоў.

І я пазнаў, пазнаў у цьвеце;
(Дзе ты, нявытаптаны шлях)
Дзе сонца пяскавае сьвеціць
У наквець буйную жыцьця.

І я цяпер да сэрца болю,
Да сьлёз жывучых у душы
Сьпяваць хачу я у прывольле—
«Бязьмежная красуе шыр».

І яснацьвет абмыты ў росах,
Каб неадцьвіў тады ва мне,
Ня зьмята ружай у пракосах
Зіма дзе ў замецях цьвіце.

Зіма!.. Зіма!.. Цьвітуць прасторы!
Сівее ў шэрані мароз.
Гараць вялікасныя зоры
Над срэбнай наквецьцю бяроз.

# Абнаўленьне зямлі

**І. Савіч**

На Беларусі ёсьць шмат балот, усяго балот у Савецкай Беларусі ёсьць 2 мільёны 131 тысяча гэктараў. 75 процантаў гэтых балот нізінныя і пераходнага тыпу, якія лёгка можна асушыць і пераварнуць у квітнеючыя нівы; 25 процантаў махавых, скарыстаць якія пакуль што вельмі цяжка. На адну сялянскую гаспадарку ў сярэднім прыпадае 2 з паловаю дзесяціны балота, а на адну душу вясковага насельніцтва—0,46 дзесяціны.

Недахоп прыгоднай зямлі, а адсюль зямельная цеснага, недахоп корму скаціне патрабуюць хутчэйшага асушэньня гэтых балот.

Асушка балот і балотных сенажацяй праводзілася яшчэ царскаю ўладаю і панамі ў мэтах павялічэньня непрацоўных прыбыткаў. Пры царскай уладзе за доўгі час з 1873 па 1917 год было асушана каля 400 тысяч дзесяцін, з якіх 10 процантаў прыпадаюць на Заходнюю Беларусь. На асушку Пінскага Палесься, якое ўваходзіць у цяперашнюю тэрыторыю БССР, было затрачана 5 мільёнаў 693 тысячы 944 рублі.

## Што зроблена да аднаўленьня

Царская і грамадзянская вайна амаль зусім супынілі работу па мэліорацыі, і праца гэта ўжо ўзьнята ва ўсю велічыню пры Савецкай уладзе ў 1923 годзе. Савецкая ўлада ўзяла на сябе кіраўніцтва работамі як дзяржаўнымі, так і работамі мэліорацыйных таварыстваў, і праца шпарка пачала пасоўвацца наперад. Дзяржава ўзяла на сябе рэгуляваньне рэк, пракладку магістральных каналаў, а працу па больш дробнай сетцы асушальных канаў вядуць мэліорацыйныя таварыствы.

Зараз ужо рэгуляваныя рэкі і пралажаныя Савецкаю дзяржаваю каналы ахапілі 102 тысячы 107 гэктараў балот, дзе асушана 19 тысяч 88 гэктараў. Мэліора-



Праходваецца новая канава.



Землечарпальная машына.

цыйнымі таварыствамі і паасобнымі сялянамі асушана 32 тысячы з лішнім гэктараў.

За апошнія чатыры гады затрачана дзяржаваю сродкаў на гідратэхніку 1 мільён 929 тысяч 684 рублі. Сялянства затраціла на гэта 823 тысячы 283 рублі. У сярэднім на год ішло 756 тысяч 849 рублёў, а царскі ўрад адпушчаў на гэта ў сярэднім 128 тысяч 113 рублёў. Як бачым, Савецкая ўлада адпушчае ў 6 разоў больш, чым царскі ўрад.

## У саўхозе «Мар'іна»

Вялікая праца па падрыхтоўцы і ўтварэньню колёнізацыйнага фонду праведзена на балотным масыве ў саўхозе Мар'іна, Любаньскага раёну; на Бабруйшчыне плошча балота займае тут 8 тысяч 644 гэктары, з якіх суходолу 1600 гэктараў.

Праца распачата ў 1926 годзе, а ва ўсю шырыню прыступлена з вясны 1927 году. Тут прадугледжана правесьці магістральных (галоўных) каналаў на працягу 80 кілёмэтраў. Акрамя гэтага, будзе праводзіцца бакавая сетка каналаў.

## Пракладаюцца дарогі

Побач з асушкай балота тут прыходзіцца праводзіць і дарогі.

На асушку балота і правядзеньне дарог па проэкту вызначана 1 мільён 365 тысяч рублёў.

Зараз пабудавана дарога праз гэта балота даўжынёю 11 кілёмэтраў. Гэта дарога злучае 2 акругі: Любаньскі раён, Бабруйскай акругі і Петрыкаўскі — Мазырскай акругі. Да пабудовы гэтай дарогі ніякіх зносін паміж гэтымі раёнамі не было, і розьніца ў цэнах на пуд хлеба часта даходзіла да 40 капеек. Яшчэ будзе пабудавана дарога на працягу 15 кілёмэтраў. Дарогі гэтыя будуць асноўнымі шляхамі зносін для будучых гаспадарак

## Закончаны канал

Галоўнае, што зроблена за гэты час— гэта прарыцьцё галоўнага магістральнага каналу № 1 на працягу 13 кілёмэтраў. Гэты канал першы па велічыні ва ўсім Савецкім Саюзе. Затрачана на яго прарыцьцё 85 тысяч 615 рублёў, а на ўсе работы па асушцы колфонду разам з правядзеньнем дарог—138 тысяч 839 рублёў.

## Арэса будзе ўрэгулявана

Акрамя асушкі колфонду «Мар'іна», арганізавана спэцыяльная партыя для выяўленьня новых фондаў у вадазборы забалочанай ракі Арэсы, якая працякае праз Бабруйскую і Мазырскую акругі. У яе вадазборы маецца 140 тыс. гэктараў забалочанай плошчы. У забалочаную плошчу вадазбору Арэсы ўваходзіць і комфонд Мар'іна.

Раней, чым асушыць гэтыя балоты, трэба ўрэгуляваць раку Арэсу, каб панізіць у ёй ваду. Работы будуць каштаваць да 2 мільёнаў рублёў. Для гэтага Нарказемам закуплены ў Нямеччыне 2 землячарпальныя машыны. коштам у 41 тысячу 135 рублёў. Гэтыя машыны ў мінулым годзе сабраны і ў гэтым годзе пачнуць працаваць.

Землячарпальная машына можа ў гадзіну выбіраць да 25 кубічных мэтраў і замяняе работу 50 чалавек землякопаў.



Пасьля працы грабары мыюцца.

## Балоты ажывіліся

Мэліорацыйныя работы ажывілі Палесьсе. Дзе раней можна было толькі праехаць на чоўне, там зараз працуюць сотні рабочых, спэцыялісты інжэнэры мэліоратары. На высьпе Сосны сярод балот пабудавана галоўная кантора, 2 баракі прыблізна на 300—400 чалавек. Тут ёсьць і клюб, і баня, і бальніца, і сталоўка для рабочых, прыяжджае кіно-перасоўка. Выпісваецца шмат газэт, журналаў. Але трэба адзначыць, што культурную працу рабачком у мінулым годзе праводзіў слаба, і ў гэтым годзе на гэта трэба будзе зьвярнуць больщую ўвагу.

## Селяніну ёсьць дзе зарабіць

Рабочыя набіраліся з бліжэйшых вёсак. Толькі спэцыялісты-землякопы найманіся з Кіеўскай акругі.

У сярэднім на комфондзе «Мар'іна» працавала ў дзень каля 500 чалавек, з якіх да 100 жанчын. Найманіся на ўрочна-падзённых умовах за плату ад 2 руб. 50 капеек да 4 рублёў, уключаю-

чы сюды харчы, за якія ўтрымлівалася 80 капеек. Працоўны дзень—8 гадзін Пачыналі ў 7 гадзін раніцы і працавалі да 4 гадзін дня з перарывам гадзіна на полудзень. Усяго выплачана зарплаты за 1927 год 125 тысяч рублёў.

### Палесьсе абнаўляецца

Так з годуўгод Савецкая ўлада непраходныя балоты ператварае ў палі, на якіх у хуткім часе мы ўбачым цэлыя пасёлкі. Палесьсе, якое раней славілася каўтуном будзе ператворана, ў культурную краіну, і «людзі з балота», як у пісьме да тэхніка Курыловіча пісаў нямецкі інжэнэр, які кіраваў зборкай землячарпалак, пачнуць будаваць новае жыцьцё—соцыялізм.

## Хлеб

**Максім Лужанін**

Горад галодны сьціх—
ноч налажыла пальцы.
Гора пільнуе усіх...
Штосьці ня сьпіцца маці.
Волю пашоў бараніць
муж ад навалы чужынцаў.
Тыя цяжкія дні
кроў разьлілі крыніцай.
Хай-бы памерла сама
з сэрцам, напоўненым мукай...
Але яна—не адна:
дзяўчынка ёсьць і хлапчук.
Што-ж яна скажа ім?
Раніцу голад пільнуе...
У роспачы рве страі
і праклінае вайну.
Што-ж, калі кожны рот
просіць: матуля, хлеба!
Укленчыш перад зарой,
будзеш маліцца небу.
— Хлеба! А дзе-ж яго ўзяць?!
Дзіка разносіцца лямант.
Слушна хавае зямля
трупы ў магільныя ямы.
Маці сядзіць ля вакна.
Высахлі сьлёзы дарэшты.
Думае думу яна,
мусі нядобрае нешта.
— Што-ж вінаваты яны?
Матцы падказвае роспач:
— Лягу з дзяцьмі пад цягнік.
...Коратка так і проста.

* * *

З шаснаццатай дывізіі,
шынэль зьвесіў на руку...
Ён атрымаў „провизию“—
хлеб, цукар і муку.
Няхай грымяць гарматы,
у думках-жа адно:
— Сягоньня п'ем гарбату
і сьвежы хлеб ямо!

* * *

Глядзіць ён, а проста настрэчу
йдзе матка і двое дзяцей...
Куды-ж яна бедных вядзе,
трымаючы кій па-старэчы?
А дзеці... хіба ім закажаш?
(Хто-б здолеў дзіцяці ня даць?)
Пабеглі настрэчу і кажуць:
— Дай хлеба кавалак, салдат!
Аддаць? Гэтак доўга чакалі!
І сам ён трыднёўку ня еў...
Спаткаў іх, а іншы спаткае
так жонку яго і дзяцей.
Усе дзеці... Свае і чужыя.
І сэрца сказала: Аддай...
Сьпяшаліся есьці малыя,
маўчала галодная даль.
Уздымаюць паціху галоўкі
і вочы падзяку ліюць.
— Глядзі, каб трымаў ты вінтоўку,
як бацьку на фронце заб'юць!
Сказаў ён звычайныя словы,
бо іншых тады ня было:
Краіна зьбівала аковы
апошняй крывавай вайной.
У песьні паставіў я помнік.
Няхай-жа не гасьне яна!
Каб вечна вялікае помніць,
Каб вечна яго ўспамінаць!

# Колектыў Яўмена*)

## А. Мрый

I.

Дарагія госьці прыехалі да ўдавы Домны Лямцюговай — дачка Адарка і зяць Хвёдар. Дачку яна ня бачыла дужа даўно, здавалася ёй, ці ня з таго часу, як заварылася гэтая каша, як народ на народ пайшоў, як паноў пачалі рэзаць ды вяскоўцам волю далі! Домна кінула вёску ды пачала з сынам Яўменам жыць на гэтым пасёлку, які людзі празвалі «комунай Яўмена». А як аддала замуж сваю ядыную дачку Адарку ў чужую, дальнюю вёску, вярстоў за 50, дык зусім адна стала жыць на гэтым,—туды яму дарога!— колектыве. Ня любіла Домна гэты колектыў і колектыўшчыкаў, ой як ня любіла. Хоць і жыла з сынам, у якога была жонка Матруна і маленькі сынок, але ўсімі думкамі рвалася ў старую вёску, у якой жыцьцё амаль што не зьмянілася!

Домна частавала сваіх гасьцей чым было. Госьці елі са смакам, бо праехаліся, а яна скардзілася на сваё жыцьцё.

Зяць Хвёдар сядзеў на лаўцы каля вакна, еў мала, а больш пыхкаў піпкай ды аглядаў хату.

Хата была новая, на дзьве палавіны. Дзьверы ў другую палавіну былі адчынены—там брыкала цялё, пад печчу скігатала парсё, па хаце спацыравалі дзьве чубаткі і певень. Вокны былі вялікія, сьветлыя, падлога роўная, чыстая.

А Домна скардзілася:

— Што толькі ў нас дзеецца, дык вы й веры не дасьцё! Яўмен перавярнуў усё дагары нагамі. Сама ня ведаю, ці я жыву, ці мяне ліхаманка калоціць. Усё па-новаму, па-новаму...

Адарка заўважыла:

— У Нямеччыне як быў, нагледзеўся, а пасьля ў Чырвонай арміі.

— Быў сын, як сын. Хоць бедна, ды ціха, супакойна жылі. Ты служыла ў пані, так-сяк патроху жылі. А цяпер на панскую зямлю селі, дык чыста адурэлі, як калясо, усё круціцца...

— Не, пра паноў кіньце!—загаварыла Адарка. Мала яны паштурхалі нас? Мала я ад пані гора бачыла? Восем пудоў важыла: прыбяры, перавярні гэтую жлукту з боку на бок, ды яшчэ пасадзі ў фаэтон, сама не магла ўзьлезьці. Адзін раз стала на падножку, дык і ўсю біньдзюгу перакінула.

Хвёдар сказаў:

— Што й гаварыць! Каб паноў ня выгналі, дык Яўмен не адбудаваў бы такой хаты!

Было відаць, што Хвёдар зайздросьціў Яўмену.

Домна заўважыла гэта і сказала незадаволена:

— Адбудаваў, адбудаваў, хоць ваўкоў суцяжыць! Стадола, а ня хата. Нават супакойна заснуць нельга... Усё здаецца, што нехта ў вокны глядзіць.

Хвёдар зарагатаў і запытаўся:

— На што Яўмену вокны такія вялікія?

— Вярзе такое, што і ў галаву не палезе: кажа, што трэба, каб паветра ды сонца было больш! Я яму колькі разоў казала ды лаяла. Халера на цябе, кажу яму, с такімі вокнамі толькі косьці мае старыя прастудзіш. Трэба, каб дух быў у хаце!

Адарка запыталася пра жонку Яўмена Матруну. Толькі раз і бачыла яе, як Яўмен прывёз з «Віроў». Тады Матруна ня вельмі спадабалася ўсім—фарсістая баба была! Домна адказала, што ўсё было-б добра, але ў дудку Яўмена дзьме і на матку вокам ня зірне.

— Два месяцы ўжо, як радзіла сына,— дадала яна.

Адарка на цыпках падышла да калыскі, асьцярожна рассунула палог, зірнула і шчыра сказала: вялікі расьці! вялікі расьці! вялікі расьці! Адышоўшы заўважыла:

---

*) Друкуецца ў скарочаным выглядзе. Цалкам надрукована ў «Узвышшы» № 5 за 1927 год.

— Нічога сабе пузанок! А ружовы які?

Хвёдар адышоў у бок і тры разы смачна плюнуў. Домна засьмяялася.

— Яўмен кажа, што нельга харкаць па падлогу. Муштруе нас, як чорт які.

— Твой Яўмен захварэў на панства! Хоць гол пакуль што, дык затое хванабэрыі шмат.

Домна нічога не адказвала Хвёдару, толькі пальцам тыцнула ў бок дзьвярэй. Там стаяла зграбна зробленая скрыначка з пяском.

Хвёдар вытрашчыў вочы:

— А-а! Пля-валь-ні-ца!

Адарка падсела да маткі і слухала яе. А матка гаварыла:

— Цяпер уся праца наша па гадзінах вядзецца. Як праклятыя працуем. Вунь, зірні!

Павесіў плюгавы гадзіньнік, ды мне здаецца, што ўсяродку ў мяне сядзіць, ды тыхае, тыхае!

II

Дзьверы адчыніліся. Увайшла прыгожая маладзіца. Гэта была Матруна. Дала дзеньдобры, зірнула на гадзіньнік, падышла да калыскі. Дзіцёнак яшчэ спаў. Яна схапіла вядро і вышла з хаты. Домна кінула ёй усьлед:

— Падой спачатку Аппаратрыцу, а тады ўжо Антанту!

Хвёдар заварушыўся на лаўцы ад сьмеху:

— Хвароба на ўсіх вас! На выстаўку трэба Яўмена!

Домна тлумачыла:

— Дзьве кароўкі ў нас, ды кабыла. Нядаўна прывяла дужа добрага жарабочка. Дык Дзянікіным празваў. Спаклалі ужо Дзянікінага гэтага самага...

Вярнулася Матруна з вядром малака. Радасна сказала:

— Зірні, мацi! Аппяратрыца сёньня яшчэ больш дала! Шклянак 30 будзе.

Адарка не паверыла:

— Ня можа гэтага быць! Я-ж ведаю гэтую Аппяратрыцу! Гэта Красулька?

— Не Красулька, а Панедзя!

— Дык Панедзя яшчэ менш давала! Што-ж вы ёй даеце? Нашу-ж Пяцёну, каб яе агні высмалілі, цыркаеш, цыркаеш, усё жыльле павыцягваеш, а ўсяго таго малака з дзьвюх кароваў—крупнік забяліць ды дзіцёнку.

Матруна пачала падрабязна тлумачыць пра Яўменавы «фокусы» з каровамі, пра турнэпс, бульбу, ды буракі, што прыбаўляюць малака.

Домна зірнула ў акно і заўважыла Яўмена.

Шапнула Матруне:

— Выгань цялё ды парася, а то—лаянца будзе.

— Не пасьпееш ужо ўбачыць, дык яшчэ сьмяшней будзе.

Яўмен ужо ўваходзіў у хату. Гэта быў чалавек гадоў 30, абголены, з шырокім тварам, высокім лобам і шапкай белых, як кужаль, валасоў. Высокі рост, шэрыя жывыя вочы, магутныя плечы і выпуклістыя грудзі—усё гэта рабіла Яўмена бязумоўна прыгожым чалавекам.

Яўмен быў ня менш рады гасьцям, чым матка.

— Вось добра, што вы завярнулі! Даўно ня бачыліся! Як-жа вы жывеце?

Хвёдар глядзеў на Яўмена і ня верыў вачом сваім.

Няўжо гэта Яўмен? Сталасьць, самаўпэўненасьць, задаволенасьць! Адказаў усьміхаючыся:

— А што мы? Чапаемся патроху! А вось у вас дык усё дагары нагамі!

Яўмен раней добра ведаў Хвёдара, нават супольна быў з ім яшчэ ў старай арміі.

— Больш,—сказаў ён: — пастарому нельга жыць: затруць. Ды і самому хочацца жыць вальней, чысьцей, хоць трохху пачалавецку. Вось на два дні адлучыўся, дык ужо сьвінушнік з хаты зрабілі,— цялё ды парасё ўвалаклі!

Матка распалілася:

— Табе праціўна ўсё, што матка зробіць! У цябе няма бога ў сэрцы! На дварэ-ж мароз, а цялё яшчэ дзіцёнак, няхай хоць пагрэецца!

— Ат! звыкліся ў гразі жыць! Смурод ды нечысьць! Ёсьць-жа цёплая пуня!

Хвёдар усё ўглядаўся ў Яўмена:

— Да цябе цяпер і на капі не пад'едзеш! Усё хочаш жыць на шырокую нагу! Двор вялікі, нават тратувары паклаў...

— Ня сьмейся, Хвёдар! На новым месцы трэба па-новаму і жыць! Я цяпер ніколі не вярнуўся-б на старое месца, у вёску. Як падумаю, у якой цясноце ды крыўдзе жывеце вы, дык шкода мне вас! Ня вёска, а пекла! Вулачкі, закавулачкі, праваліцца ім. Хата адна на другую лезе! Пажар, дык усё скіпіць! Ні кусточка, ні гаёчка. Гола ўсё, як калена. Дрэваў ня любяць...

Дзіцё ў калысцы прачнулася і моцна заявіла аб сваіх правох. Матруна падышла да калыскі. Яўмен запытаўся ціха: а рукі ня мыла?

Адарка ўмяшалася:

— Адкуль ты чысьцёхай такой стаў? Бажаволіш! Рукі пагнаў жонку мыць! А калі нам часта некалі ня толькі памыць, а нават зьесьці, як чалавеку.

— Што другое, а гэта трэба! А то сьвіньням мяшала, з гаршкамі вазёкалася, а потым да дзіцёнка!

На двары зьявілася нейкая кучмастая галава і закрычала ў вакно:

— Яўмен вярнуўся, ці яшчэ няма?

— Вярнуўся Яўмен—адказаў ён сам:— заходзь Зьмітрок. Увайшоў ня дужа стары гаспадар і, даўшы дзень-добры, адразу перайшоў да справы:

— З раёну прышлі па нашай заяве білеты на выйгрыш. Тады мы ўсё ўзялі ў складчыну. Па два рублі з двара. Дык ці ёсьць у цябе?

— Ёсьць, ёсьць.

Хвёдар недаверліва паматаў галавою:

— Эйш ты! На што гэта глупства— выйгрышы?

Домна пачала бубніць Адарцы:

— Як на хустку прасіла, дык няма, а чорту ў зубы дык ёсьць.

III

Вясною Хвёдар і Адарка зноў наведаліся на Яўменаў колектыў. Па ўсім раёне толькі і гаварылі, што пра гэты пасёлак! Як увайшліся госьці ў хату, Хвёдар пачаў крытыкаваць:

— Усё нутро адбілі, пакуль праехалі па вуліцы. Як у горадзе, брукам выслалі. І тратувары, як у павятовым горадзе. Нават двор і той забрукаваў!

Хацелася яму завесьці доўгія спрэчкі, ды цешча пасадзіла за стол і пачала частаваць.

Хвёдар захапіў з сабой гарэлку. Тлум паднялся. Зяць разышоўся і пашоў атакай на Яўмена.

— Ты кажаш, што трэба жыць па пляну, дружна, грамадой! Глупства! Грамадой не разбагацееш!! Вунь двор брукам выслаў, што з гэтага? А што далей, што далей будзе? Што будзе з твайго пасёлку? Чуў я, што ты яшчэ нешта замышляеш?

— Што далей будзе? Лепш будзе, чым цяпер!

— Комунію будзеце заводзіць?

— А што-ж? Мы не такія ўжо цёмныя! Наш пасёлак будзе, як у Нямеччыне! Галоўнае ў тым, што ўсё робім дружна, грамадой, па пляну. Цяпер будзе ў нас школа, хата-чытальня. Ніхто нам не дапамагае. Самі!

— На якога радзімца?—ня ўнімаецца Хвёдар.—На шыю сабе лішні цяжар. Багацеі знайшліся!

— Я ведаю, што з вас ніхто-б гэтага ня ўзьлюбіў. У вас заікніся — дык заплююць.

— Скажу табе па праўдзе,—хітра кажа Хвёдар:—я першы даў-бы табе дыхту, каб ты ў нас гэта пачаў...

— Чаму?

— Не даеш спакойна жыць!

— Не даю ў гразі калупацца!

Домна стала за Хвёдара:

— Спалі, а цяпер дык зусім ня сьпім! Апаптаная нейкая ўсьсела. Вы толькі паслухайце! Яўмен кажа, што з будучага году будуць разам, кучаю засяваць зямлю!

Хвёдар нічога не сказаў на гэта, ён пачухаў калена, тады пад пахай, перайшоў потым на сьпіну і як нейкую таемнасьць паведаміў Яўмена:

— А ўсё такі, хоць і культурны ты чалавек, блох у цябе ліха ведае колькі! Ці не гадуеш ты іх на сельска-гаспадар-

чую выстаўку? Дык беражыся, калі кожная з іх ад вальготнага жыцьця, будзе па 10 пудоў. Як скокне на лашку, дык задавіць і цябе і тваю культуру.

— Ну й лухту панёс!—спыніла яго Адарка. Кінь ужо! Насусьліўся! Дагаворышся чорт ведае да чаго!

Вылезьлі з-за стала. Яўмен прапанаваў Хвёдару адпачыць, сам сабраўся ісьці да суседа, каб забраць у яго газэты.

— І я з табою пайду!—заявіў Хвёдар. Палаюся яшчэ з тваім суседам.

Мужчыны вышлі з хаты.

Праз некалькі хвілін у хату ўвалілася цэлая куча людзей на чале з Яўменам. З заду ўсіх плёўся Хвёдар. Усе былі ў незразумелым хваляваньні. Яўмен прыбег бяз шапкі.

Бабы ўспалашыліся.

— Што? Што там? Гавары!

Яўмен махаў газэтай і ва ўсю глотку, жадаючы перакрычаць усіх і самога сябе, як на трыбуне, гулка адчаканіў:

— Наш пасёлак выйграў! Ура!

— Што выйграў, каб табе праваліцца!—сказала матка.

— 5.000 выйграў.

Усе аслупянелі. Ніхто не паверыў гэтаму.

А Яўмен, супакоіўшыся троху, не зьвяртаючы ўвагі на страшэнны тлум, які ўзьняўся ў хаце, гаварыў свайму суседу Зьмітраку:

— Цяпер у нас усё будзе! Трактар, клюб, школа, электрычнасьць...

А матка заўважыла Адарцы:

— Цяпер у мене хуста напэўнае будзе!

---

## СТАЗВОНЫ

Зьм. Астапенка

Выходзяць думкі з берагоў,
І песьні рвуць за імі сьледам.
Сваіх імкнёных рубяжоў
Ніколі я не пераеду.

Я пераразвоннае жыцьцё
У песьнях юнасьці вітаю
Краіна песен дарагая!
Ў цябе я сонечным гасьцём.

Імкнецца песенная гаць.
У ёй пялёсткі сыплюць зоры.
За што я вас так пакахаў,
Палёў вясёлыя прасторы.

Ці мо' таму, што ў вас узрос,
Што ў вас убачыў сонца-далі!
Ці кудры шоўкавых бяроз
Мне гэту думку нашапталі.

Імкнецца песенная гаць,
А ў песьнях—жніўнае абліччa...
Нашто шляхоў сабе шукаць,
Калі прастор вясёлы кліча?..

---

## ВЕСНАВОЕ

Ю. Таўбін.

Сьнягамі пазавалены
Палянкі ля вакон...
Вясеньвія праталіны
Галінны пераразвон...

Пабеглі хмары чорныя,
І поўныя красы,
Птушыныя, задорныя
Шчабечуць галасы.

Сінеюць льды пад плынямі
Магутнае ракі...
Пабеглі ў далі сінія
Са звонам ручайкі.

Ўцякло ўсё мутнае
З радзімай стараны,
І зьніклі думы смутныя
Пад подыхам вясны...

Дык што-ж, калі завалены
Палянкі ля вакон?!..
Вясеньнія праталіны,
Галінны пераразвон!..

# На новай дарозе

## М. Лазарчык

*Гутарка з тав. Канашэнкам, старшынёй Чэрыкаўскага раённага камітэту сялянскай узаемадапамогі на Магілеўшчыне*

У справе гаспадарчага адбудаваньня Чэрыкаўшчыны, камітэты сялянскай узаемадапамогі граюць досыць значную ролю. Кампанія па падрыхтоўцы да сяўбы распачата яшчэ з сьнежня месяца.

За свае сродкі закуплена ўжо рознага насеньня, як аўса, грэчкі, ячменю і інш., 5246 п. і 86 пудоў вікі і яшчэ ёсьць на насеньне 1500 руб. Такім чынам, вясной удасца забясьпечыць насеньнем 3262 бядняцкія гаспадаркі і бяднейшых гаспадароў-сераднякоў. У прыватнасьці—Губішчанскі камітэт загатаваў 720 пуд. насеньня, Езерскі—732 п. і Рэчыцкі—638 пудоў.

Заданьне ачысьціць па раёну 12 тыс. п. ярыны камітэты сумесна з райвыканкомам спадзяюцца выканаць.

Ужо 2-мя зернаачысьцільнымі абозамі па вёсках ачышчана 6221 пуд. ярыны.

Добра працуюць у камітэтах і тыя трыеры, якія атрыманы па конкурсу „Беларускай Вёскі". У Зябенскім сельсавеце трыер „Беларускай Вёскі" адсартаваў ужо каля 1000 п. ярыны, а ў Губішчанскім—970 пуд. ярыны. Для падмогі-ж беднаце ў часе сяўбы камітэтамі арганізавана 14 працоўных арцеляў. Першымі ў гэтай справе ідуць: Губішчанскі, Глінскі і Верамеўскі камітэты. Мяркуецца вясной гэтымі арцелямі ўтварыць поўную падмогу коньмі і працай 132-м бядняцкім гаспадаркам.

Нішто справа і з узносамі. Калі трэба было сабраць узносаў 3737 рублёў, дык з прычыны недароду і градабіцьця сабрана дагэтуль 2869 рублёў.

Досыць добра і з распаўсюджваньнем пазыкі. Камітэтамі, сумесна з сельсаветамі, распрадана ўжо аблігацыяў па раёну на 6000 руб.

За свае сродкі камітэты падпісаліся на 225 рублёў. Старшыня райкому ўзаемадапамогі, езьдзячы па вёсках і тлумачачы аб пазыцы, сам распрадаў аблігацыяў на 200 р. у Губішчанскім с.-савеце. Камітэты распрадалі аблігацыяў на 400 руб., а ў Верамееўскім—на 320 руб.

Значная праца праароблена камітэтамі і па абслугоўваньню беднаты. Дадзена падмогі за мінулы год 3218 гаспадаркам—хлебам 6800 п. і грашмі 1720 руб.

Працоўная падмога летась была касьбой сенажацяй, апрацоўкай зямлі і інш. дадзена 63 гаспадаркам і 32-м удовам адрамантаваны плугі і с.-г. прылады. Коопэравана 183 беднякі. А ў дзень жанчын—8-га сакавіка—сёлета коопэравана 30 жанчын за сродкі камітэтаў і 24-м удовам адрамантаваны ўсе с.-г. прылады.

Досыць шырока разгортываецца і вытворчая праца.

Камітэты маюць 5 сваіх млыноў і шосты новы за свае сродкі будуюць. У млынох заўсёды дармова меле сваё збожжа 138 бедных гаспадароў. У Хаўмянскім сельсавеце камітэтам арганізавана досыць добрая цагельня, якая летась выр<sub></sub>біла—46 тыс. цэглы, з якой пабудавана райвыканкомам новая школа, а частка цэглы і сялянам пайшла. Цагельня гэта дае добрыя прыбыткі і дзесяткам беднякоў працу.

З вясны распачынаецца здабываньне торфу. Для гэтага раней яшчэ было дасьледавана камітэтамі 102 гэктары тарфяных балот.

Так чэрыкаўскія камітэты будуюць новую вёску.



Сушка цэглы на цэглянымі заводзе ў Чэрыкаскім раёне

# Не хачу так

Кузьма Чорны

I.

Па мокрай дарозе шырокія разваліны пад'ехалі да нізкага і доўгага, дзеравянага дому сельсавету. Хлапчук прыпыніў лейцамі лапавухую кабылу, зьлез з разваліп і падкінуў кабыле сена. Лейцамі прывязаў яе за мокры клён, напроці вокан на вялізным двары. Узяў з саней жменю саломы, абцёр боты і пайшоў на ганак, падагнуўшы полы аблезлага кажушка і ўсунуўшы рукі ў адтапыраныя кішэні картовых портак.

У сельсавеце шмат было народу. У сьветлых сенцах нечага чакалі дзядзькі, стоячы каля сьцяны, папрыпіраўшыся да яе плячыма... Сядзелі на падлозе. Адзін, з доўгім і спакойным тварам, панура расказваў:

—...дык я толькі адхіліўся на момант ад возу, дык адразу нехта пугу з сядзеньня і выцягнуў. І такая-ж была пуга, каб ён не спажыў яе! Стусіна, у краме куплена. І схавана-ж была пад саломаю.

— Мусіць, бачыў, як ты хаваў яе,— сказаў другі.

— А можа й так, нэманы,—падыйшоў, памацаў—бачыць, пуга тырчыць!..

Хлапчук вярнуўся назад, выцягнуў з саней зпад саломы сурамцовую пугу і падаўся зноў у сельсавет.

У першым пасьля сяней пакоі народу было больш. Каля аднаго стала стаяла чарга. Хлапчук пакуль агледзеўся, пакуль паперачытваў надпісы над сталамі, прайшло колькі хвілін. Раптам знаёмы голас над самым вухам адарваў яго ад чытаньня:

— Пятрок, што ты тут робіш?

— От тут... трэба...

— А як ты ехаў, праз Валодзькаўшчыну ці напрамік?

— Напрамік.

— Хіба трымае яшчэ?

—Пачало пускаць... На сярэдзіне вада стаіць.

— Як-жа ты ехаў?

— Праехаць яшчэ можна ўлегцы.

— А я кружыў Валадзькоўшчынаю, чатыры вёрсты, ліха яму, кругу даў. Не ведаў, думаў, што зусім пусьціла.

Пятроў швагер—невялікага росту і чарнявага воласу—Сальвэсь, таксама трымаў пугу ў руках. Тонкім канцом пужальня ён стараўся запхнуць у лапаць разбэрсаны край анучы, што з боку вылез наверх. Доўгі і новы халат яго, апрануты на кажух, алтапырваўся ў бакі поламі. Каўнер кажушка быў выцягнены зпад халата і быў трохі падняты і абвязаны паверсе рудым самаробным шалем. Паправіўшы анучу, Сальвэсь патупаў падмочанымі лапцямі і сказаў:

— Як той казаў, завозна вельмі. Чакаць доўга давядзецца, каб яно ўтанула. Людзей пазьбіралася вельміж.

— А вы чаго прыехалі?

— От... трэба.

Тут Сальвэсь пільна паглядзеў у твар Пятру. Той разглядаў забруджаную і пашчапаную падмогу. Пасьля адзін аднаму стараліся не глядзець у вочы.

— Мусіць, некалі тут дровы секлі— заўважыў ён.

Сальвэсь допытна і нават устрывожана разглядаў Пятроў твар. Аднак з раздум'ем, адказаў:

— Тут кухня была, калі поп жыў.

Калі-ж Пятрок глянуў на яго, ён павярнуўся ў бок, як-бы для таго, каб разгледзець стол, каля якога стаяла чарга.

II

«Няўжо ён гэта таксама дзеля гэтага-ж самага прыехаў?»—думаў Сальвэсь, гледзячы цераз сьпіны мужчын на сельсавецкі стол і пазіраючы з боку на Петрака.

Глядзеў на яго і чакаў, каб хутчэй дазнацца, чаго ён прыехаў сюды.

Пятрок-жа думаў: «каб хутчэй узяць гэты квіток на дровы, ды ехаць дадому. Можа-б сёньня яшчэ да лясьніка справіўся-б, каб паказаў, дзе зьбіраць гэтае гальлё. І каб хаця Сальвэсь не прыставаць

пачаў з усялякімі допытамі, а то тут можа і гаварыць чаго ня трэба, а ён гатоў мяне ўблытаць, як сам захоча». Апошняя думка ня была выразнаю ў Петрака, і ўсё гэта адчувалася. Ён зрэдку пагля-даў на Сальвэся, заўважаў, як той коса пазірае на яго і ўскідаў вачмі паверх чужых сьпін.

Сальвэсь дачакаўся, пакуль Пятрок дастаў квіток і ўбачыўшы, што ён ніякае большае справы тут ня робіць, а зьбіраецца мусіць ехаць адгэтуль, відавочна паспакайнеў і сказаў Петраку:

— Значыцца, скончыў сваё?

-- Але.

— Дадому цяпер?

— Ня зусім.

Сальвэсь зноў трохі ўзьнепакоіўся:

— А куды-ж?

— Да лясьніка заеду.

Зноў Сальвэсь паспакайнеў:

— Дык гэта-ж можна выкіраваць, што й па дарозе будзе.

— Я-ж так і зраблю.

— Значыцца напрамік льга яшчэ ехаць?

— Льга.

Раптам Пятрок падумаў: „а от вазьму ды папытаю, што ён тут робіць. Папытаю і паеду зараз-жа. Добра было-б і дазнацца, чаго ён прыехаў сюды—дома расказаць“. І ён запытаў:

— А вы што тут робіце?

Сальвэсь паглядзеў на падлогу, хмурна аглядзеўся вакол і адказаў:

— От таксама з дрывамі.

— Чаму-ж вы са мною разам ня бралі, як усім выдавалі?

«Ня верыць, ліха яму»—падумаў Сальвэсь і раптам загаварыў:

— Што я табе, браце, буду гаварыць. Ты тут у гэтым дзеле ўсё роўна мала што можаш разабрацца. Я табе скажу гэта проста. Што думаю, тое й гавару. Табе якіх-небудзь чатырнаццаць год, што ты тут лішне можаш разумець. Што тут табе гэта! Вядома, што-б там ня было, а ты заўсёды будзеш супроць мяне. Ты яшчэ ня жыў, можна сказаць, ня ведаеш жыцьця і слухаеш, што там у вас у сям'і гавораць. Што я гад, што я згубіцель. А тут ува ўсім вінавата яна, і больш нічога. Яна там нагаворыць! Ох яна там нагаворыць ужо! А тут што, яна дзеля гэтага і замуж ішла, каб маім дабром сваю гаспадарку папрвавіць. Ты на мяне паглядаеш коса, а што ты ведаеш тут!? Гаворка!.. Дурня знайшлі, езьдзіць па ім! Пазіраюць, раты паразяўляўшы, вочы скасабочыўшы!

Вакол іх пачалі зьбірацца людзі. Пятрок праверыў, ці палажыў ён у кішэню квіток і, нічога ня кажучы, хутка падаўся да свайго возу, абы так вольна, разам з Сальвэсем, не разглядалі яго людзі. Сальвэс, падышоў да вакна, глядзеў, як Пятрок адвязаў кабылу, падабраў з-пад яе сена, паправіў на развалінах салому, ускаціўся на развалівы і, разьвязваючы на хаду торбу з хлебам, пагнаў кабылу. Каля Сальвэся стаялі мужчыны.

III.

— Тут гаворкі доўгае быць ня можа,— гаварыў Сальвэсь, гледзячы ў людзкія твары і шукаючы ў іх сабе спачуваньня,—тут няма чаго лішне доўга гаварыць. Гэта добра даць права якой-небудзь гарадзкой кабеце, якая, можна сказаць, больш ведае як і што, бо яна хоць трохі ды вучоная. А гэта—дай ты ёй, нашай кабеціне, усялякія, як той казаў, правы, дык яна цябе асядлае ды паедзе на табе.

Пачуліся галасы:

— Ды ты, чалавеча, гавары выразна, а то ўсе мудрагеліш.

— Гавары ты, хто гэта там за такая, што па табе конна паехаль?

— Пра што гэта ты?

Сальвэсь паглядзеў вакол сябе. Стаяла перад ім чалавек пяць, незнаёмых усё, з суседніх, мусіць, вёсак. Стаялі і глядзелі на яго, некаторыя і ня лішне цікавячыся, а па прывычцы даведацца пра ўсё, што дзе гаворыцца, каб, расказаўшы дома вечарам у сваей хаце, тут-жа і забыцца на гэта. У некаторых можа і была вялікая цікавасьць, але на твары яна не выяўлялася. Твары былі спакойныя, заклапочаныя нечым сваім.

Сальвэсь пагляддзеў яшчэ на сельсавецкія сталы. Там перабіраліся ў паперках, гаварылі між сабою і з мужчынамі, што наляглі на стол...

Сальвэсь сказаў:

— Баба ад мяне ўцякла.

Зразу ўстрапянуўся нейчы голас:

-- Ось ліха!

— Уцякла. Пажылі мы тры гады ўсяго.

— Чаго-ж яна ўцякла?

— Дрэнна жыла са мною. Нелады былі ў хаце.

— А можа гэта ты з ёю дрэнна жыў?

— Ну як-жа ўжо жыць з ёю! Жыў, як усе жывуць добрыя людзі. А што нелады былі ў хаце, дык у каго іх няма. Усе людзі так жывуць. Ці гэта-ж дзіва?!

— А якія-ж нелады?

— Ды от што я скажу або зраблю— ёй непадабаецца. Што яна скажа, мне не падабаецца.

— Сварыліся, значыцца?

— Было і гэтага, але ці гэта-ж дзіва?

— А чаго-ж вы не маглі падзяліць?

— А хто яго ведае. Можа гэта так ідзецца на жыцьці мне ўзяць такую паскудную кабеціну.

— А невядома, як яна скажа на гэта?

— Ну вядома, што гэтая сьцерва будзе ўсюды на мяне нагаварваць.

— От і разьбяры тут.

— Ды я чэ, паскуда, падала ў суд, каб частку з мае гаспадаркі ёй забраць. Я, кажа, тут працавала.

— А як-жа ты думаў?

— Як думаў?! Я яе не праганяў. Няхай-бы жыла. Жылі-б, рабілі-б і мелі-б. Далікатная вельмі! Слова ёй ня скажаш.

— А дзеці ёсьць?

— Адно. Хлопчык. З сабой забрала.

— То табе, чалавеча, значыцца, аліманты давядзецца плаціць.

— Я проці гэтага нічога ня маю. Плаціць — дык плаціць, але нашто гэты зьдзек—каб забраць там з гаспадаркі частку. Адно кажу—я яе не праганяў.

Ужо некалькі галасоў пачулася:

— Тут, сапраўды, закавыка.

— От табе, браце, ты і ажаніўся. Цяпер цацкайся.

— Бо можа ты крыўдзіў яе вельмі чым. Можа ёй вельмі жыць было дрэнна за табою?

Сальвэсь перабіў:

— Я тут думаю проста—пайшла яна замуж дзеля таго, каб пакарыстацца маёю гаспадаркаю. Яна законы гэтыя ўведала—і давай, думае, папрабую. Хіба гэта мне ня крыўдна. Дзе я ні быў — усюды кажуць, што яна частку адсудзіць. Што гэта за такое, браткі мае. Хіба гэта закон? Яна ня хоча бо са мною жыць! Ня хочаш—дык ідзі к чортавай матары, калі гэтак намаглася сама! Я цябе не праганяю. Я ўгаварваў нават яе, каб засталася. Халера... Трасцы. Не адсудзіць, я на яе ўправу знайду!..

— Ты, чалавеча, пачакай. От я ў цябе зараз запытаю...

Сальвэсь глянуў. Наперад вылез чалавек у кароткім новым кажушку. Белявы, з падстрыжанымі вусікамі. Высокі. Падыйшоў да самога Сальвэся, жмурачы вочы ад сонца.

— Ну, запытай.

IV

Сальвэсь глядзеў на гэтага чалавека і пачаў пазнаваць патроху яго:

— Дзе гэта я цябе бачыў?

— Ня ведаю, можа дзе і бачыў.

— Ці не ў саўхозе гэта ты кавалём трохі быў.

— Быў.

— А то я-ж цябе ведаю. Гэты ты тады са мною барыш піў, як памог мне каня выбраць. На гэтым кані цяпер езджу, дай табе божа панаваньне.

— Ну, панаваньне там, дык гэта...

— Я табе й цяпер кажу перад усімі, што...

— Пачакай. Дрэннае было такое жыцьцё, калі кожны дзень сварка.

— Ня дай божа.

— То на што ты цяпер крыўдзішся?

— На тое, што частку з гаспадаркі возьме. Не ўдалося мне жыцьцё, дык

чаму павінны яшчэ бацькі мае пакутаваць. Гаспадарка й так небагатая.

— Ну што-ж табе тут парадзіць. Няўдачы ў жыцьці бываюць. Ясна адно, што добра твая жонка зрабіла, што парушыла гэтае пекла, якое, мусіць, было ў вашай сям'і.

— На гэта то я нічога, але от мне за гаспадарку душа баліць. І так яна дробіцца. Як падзялілі з братам, дык колькі там тае гаспадаркі:

— Ня трэба было дзяліць з братам.

— А як?

— А яшчэ колькі гэтых братоў узяць, чужых. Зрабілі-б колектыў і жылі-б сабе. Каб была агульная гаспадарка, тады-б і сямейныя свае справы ўладзіў-бы лепш. З жонкаю ў яў-бы разлуку і яна жыла-б сабе і працавала-б у гэтай самай гаспадарцы. А то...—Дзе яна цяпер?

— Да брата і маткі пайшла.

— Дык частку, чалавеча, мусіць давядзецца табе даць.

— А ты-ж сам дзе цяпер?

— За Астрэйкамі на гаспадарцы. У камуне жыву.

Сальвэсь пачаў расказваць, як Пятрок—брат яго жонкі—быў тут нагадзе і мусіць гэта ня так наконт квітка на дровы, як пра гэты ўсё суд—клапоцяцца яны ўсе.

V

Пятрок ехаў па мокрай дарозе. Пад капытамі ў каня плюхала, уежджаны і пачарнелы сьнег праваліваўся.

«У лясьніка каб хутчэй справіцца, ды дадому. Бо трэба яшчэ будзе ў аптэку заскочыць па лякарства сястрыному малому». Даставаў з торбы хлеб і еў. Не паклалі яму нічога больш у торбу, бо ня было нічога палажыць, апроч хлеба. І ён думаў яшчэ пра гэтае самае: як сястра, што адчувала цяпер сябе дома ні госьцяю ні гаспадыняю, клала яму гэты хлеб у торбу.

І гаварыла:

— Заедзеш, братачка, яшчэ ў аптэку...

— Добра,—адказаў ён.

І яму захацелася сказаць што-небудзь добрае сястры, супроць якой нават і матка пачынае гаварыць, што от не магла яна жыць за мужам, што от уцякла на сьмех людзкі. І цяпер ні дзяўчына, ні ўдава. Адказала была яна матцы:

— Не магла я жыць разам. Бо гэта ня жыцьцё, а пекла.

— Біў ён цябе?

— Не, але ненавідзелі адзін аднаго.

— Чаму?

— Праціўнымі былі адно аднаму.

— Трэба было, дачушка, як-небудзь трымацца. Як-небудзь перажылося-б, перагаравалася-б. Ты-ж сама ведаеш, як я жыла. І бедна жылі, і сварыліся, і таксама ненавідзелі, білі-я нават. Колькі я паболў перанесла. Аднак пражыла век.

— Я не магу так.

— Трэба было трымацца, дачушка.

— Не хачу так!

— То чаго ты злуешся на мяне, старую?

— Бо калі табе, мама, я замінаю тут у хаце, дык ты скажы мне проста. Я куды-небудзь буду старацца хоць на службу застацца.

Маці заміргала вачыма, пачала выціраць рогам хусткі сьлёзы.

Пётраку нядобра стала стаяць пры гэтым і ён сказаў:

— Хутчэй улажэце мне хлеба ў торбу.

— От зараз.

Сястра правяла яго за вароты і зачыніла іх за ім.

Цяпер у полі было весела. Пахла вясною. Пад мокрым сьнегам адчувалася зямля.

## Паміраў дзень.

Я. Валасэвіч.

Паміраў па-над лесам ўжо дзень,
І зьмяняў яго вечар цьвярозы.
Сумавалі аб нечым бярозы.
Паміраў па-над лесам ўжо дзень.

Сьмех разьліў месяц у высі марознай,
І вакол шэры змрок парадзеў...
Паміраў па-над лесам ўжо дзень,
І зьмяняў яго вечар цьвярозы.

# Вершы І. Сярмяжнага

## Песьні.

Нівы раздольныя, песьні гульлівыя,
Сэрца хвалюеце мне.
Доля убогая, век сіратлівая
Болей мяне не сагне.

Кожная хваля водклік гульлівы
У сэрцы збуджае маім.
Думка магутная песьні шчасьлівай
Ураз адгукаецца ім.

Вецер над рэчкай каліну захістае,
Птушка ў бары запяе,
У сэрцы ўзбуджаюцца думы агністыя,
Грудзі палаюць мае.

Ці вецер у полі ўстае навальніцаю,
Лес зашуміць, загудзе,
Песьня з грудзей паліецца крыніцаю
Сьветлых яскравых надзей.

Ці голас дзяўчыны ці сумнай жалейкі
Чую, бывае, падчас
Сэрдца ўсхвалюецца полымем нейкім,
Песьня складаецца ўраз.

Бачу, як ветрам хвалююцца нівы,
Сонца убачу з-за хмар—
Ў душы адгукаюцца струн пераліvы—
Радасьць зьдзейсьненых хмар.

## Сьветазор

Сьветазор, што глядзіцца на долы зямлі
І нябес спавівае скляпеньне,
Як сьвятлом ён чуць-чуць заімгліць—
У душы устае абуджэньне.

Хтосьці струны кране, і яны зазьвіняць.
І ліецца з іх песьня суэвоньня.
Песьні тэй ня спыніць, ня стрымаць,
І агіда уся ў ёй патоне.

Як раса ападзе, срэбра зор заімгліць,
І пакрыюцца змрокамі далі—
Мне сьціскаецца сэрца, баліць—
Чую—братнія стогны упалі.

На роспачы сьцежак увечар стаю
І гляджу, як згасае зарніца.
Зноў я песьняй сваёй той прастор абвію,
Зноў ліецца яна, як крыніца.

# Пад старою бэлькаю

## Ул. Дуброўскі

Веснавою шырынёю сваёю гайдалася рэчка Бяроза.

Вада сіняя і халодная. Па берозе плывуць плыты. Скрыпяць, стукаюцца рогам у круты бераг, адарвуць кусок сырой зямлі і плывуць далей. Плывуць і скрыпяць.

На плыце стаіць Мацьвей—худы і высокі мужчына. Стаіць і адпіхае доўгім штылем плыты ад берагу. Вада сіняя плешчацца. Набягае на ногі Мацьвею і мочыць іх. Мокрыя аборкі лапцей моцна ўрэзаліся ў ногі. Цвыркае вада ў анучах. Вясновы халадок сьціскае плечы.

Мацьвей набівае самасадкай люльку і закурывае. Углядаецца ў шырокую даль і разважае:

— Ня я першы, ня я апошні. Кепскавата, але нічога... Гоняць-жа са мной людзі і мае суседзі, а чым я горш за іх. Яшчэ нядзелька і плыты на месцы. А ўсё ж такі, як ні гавары, як ні зморышся, хоць і паляскаеш зубамі ад холаду, але глядзі і будуць. Ды Міхасевы яшчэ што выменяў на доляры, якія ён прыслаў з Амэрыкі, глядзі і зьбярэцца.

І адпіхае Мацьвей плыты ад берагу.

Яны плывуць і плывуць. Мінаюць берагі, лукі, адны ракітавыя кусты, другія і Мацьвей з плытамі ўсё далей і далей... Па небу ходзяць чорныя вясновыя хмары. На берaзе гуляе вецер з леташняй сухой травой. Пахне гнільлю і сырой вадой.

— Пад...га...вя...й! — часамі крычыць Мацьвей свайму суседу Макару. Макар налягае на шост і стараецца не застацца ад Мацьвея.

Плыты выкручваюцца жоўтай істужкай, стогнуць глуха, а вада бурліць па веснавому сярод бярвеньняў і гоніць іх на далёкую прыстань.

* * *

Туманнай раніцай плыты падплывалі пад прыстань. Было чуваць, як гудзеў гудок лесапільнага заводу. Скрозь плёнку сівага туману вырысоўваліся людзі, якія бегалі па беразе і варочалі нешта каламі. Плыт Мацьвея прыставаў бокам да берагу. Цяжка ўздыхнуўшы, як уздыхаюць пры скончэньні цяжкай працы, і апошні раз упёршы штылем у жоўтае дно рэчкі, Мацьвей застанавіў свой плыт і вышаў на бераг.

— Каторы? запытаўся чалавек у акулярах, што прымаў плыты.

— Трынаццаты,—адказаў Мацьвей.

Запісаў чалавек у кнігу, потым выдраў адзін ліст і падаў Мацьвею. Скруціў той ліст мокрымі пальцамі, пачакаў Макара і пашлі ў кантору.

У канторы пахла мокрымі анучамі і махоркай.

— Дзевяты... дзесяты... — выкрыкваў хлапец—седзячы за шырокім сталом і пастукваючы шчатамі. Выдавалі разрахунак.

— Дванаццаты, трынаццаты,—крыкнуў хлапец.

Расціхаючы плячыма плытнікаў, Мацьвей падышоў да стала.

— Мацьвей Выдра?

— Так.

— Вам належыць 93. Расьпішыцеся.

Вывеў Мацьвей першыя літары «Вы» і атрымаў грошы. Вышаў на ганак, закурыў. Пачакаў суседзяў—плытнікаў, а потым разам з імі пашоў у прыстаньскую чайную.

Плытнікі запівалі скончаную працу. Мацьвею зрабілася цёпла. Радасьць гуляла ў яго вачох.

Успомніў, што ён багаты «чалавек». Гумно ёсьць, хата ёсьць, конь ёсьць. А дзе я дзену грошы? Сам ня п'яніца і спраўляць няма чаго.

Потым нутро яго падсказала яму:

— Запас бяды ня чыніць, няхай ляжаць пра чорны дзень.

— Палажу, няхай ляжаць,—і ён спытаў Макара:

— Дзе, Макар, грошы дзенем.

— Я?—запытаў Макар: я браце, Мацьвейка, дзену.

— Думаю каняку прамяняць, да яшчэ і гумно перасыпаць.

— Ага і то праўда,—адказаў вяла Мацьвей—А я брат свае... і Мацьвей не пачаў далей гаварыць, а ўспомніў пра сябе, што ў яго ёсьць добрае месца для грошай пад бэлькаю на печы і што там яны будуць ляжаць як мае быць.

— Мацьвей, заві Піліпа,—гаварыў Макар—стоячы над сталом. Дамоў пара сабірацца. Хопіць. Плытнікі чарадой вышлі з чайнае і пашлі па гразкаватай яшчэ дарозе. Паветра было цёплае і пахла дарога сьвежым гноем.

* * *

Вёска Палянкі стаяла на ўзгорку. Кругом не далёка расьцілалася нізіна Палянскага поля. Зямля ўжо была расчэсана зубамі вострых барон і складзена ў высокія загоны.

Відаць было, што па полі прайшла вясновая праца.

Мацьвей мінуў поле і ўваходзіў у канец вёскі. Яго хата была трэцяя ад канца. Ён узышоў на двор. На двары было ўсё па-старому, толькі калёсы сталі не пад павецьцю, а пасярод двара і на іх сьпіцах вісела ахапкамі гразь.

— Добры дзень! сказаў Мацьвей.

— Добры, добры...—адказываюць яму ў хаце.

Мацьвей дае дзецям абаранкі.

— Ну, як-жа ты тут маешся, мой комсамол?—гаворыць Мацьвей на свайго старэйшага сына Андрэя. Ці адсеяўся ўжо ты тут без мяне?

— От жывецца трохі і адсеяўся збольшага.

— О, то добра, а я думаў, што ты тут прагуляў усё на сваіх сходах.

— Ну, па мне ня бойцеся.

— Верыць вам,—жартуе бацька.

— А як-жа самі, ці здаровы, колькі зарабілі, а мо самі прагулялі грошы,—падміргаючы гаворыць Андрэй.

Андрэй быў малады і моцны хлопец. Бацька любіў Андрэя.

— Я, брат, не прагуляю грошы,—гаварыў бацька.

— Ну, хто знае?—з усьмешкай адпіраўся Андрэй.

— Я знаю.

Андрэй падумаў, што грошы ў гаспадарцы не патрэбны, што можна абыйціся бяз іх, захацеў па свойму агітнуць бацьку.

— А ўсё-ж такі не мяшала, тата, даць і нам месца грошам.

— Я і дам!—адазваўся Мацьвей.

— Куды?

— Не твая справа.

— Знаеце, тата, дам вам добрую параду.

— Ну, што ты дасі?

— Занясеце грошы на пошту ў касу.

Мацьвей падумаў, падумаў, а потым пачаў:

— Не! Нэ хачу. Гэта значыць—у пяперашні банк. Не. Палажыў я яшчэ за Мікалаем 300 рублёў, так і ляснулі там. У мяне свой банк. Там таксама поўная тайна Ўкладаў і не прападзе—і Мацьвей адным вокам з-паділба ускінуў на печ пад бэльку. І вечарам, калі лажыліся спаць і патушылі лямпу, Мацьвей узяў грошы, абкруціў іх анучай і ўсунуў у дзірку за бэльку.

* * *

Мацьвей часта заглядаў пад бэльку.

Аднаго разу палез Мацьвей на печ вечарам, каб паглядзець грошай. Узяў за ражок анучы і ціханька пацёг яе.

Пацег больш, аж бачыць, што яна з махрамі.

Пацягнуў яшчэ, аж пасыпалася дробная папера.

Хваціў Мацьвей іх рукамі расьцёр на далані.

— Мышы! Мышы! закрычаў ён.

— Дзе? Што?—закрычалі ў хаце.

— Мышы грошы ператочылі... ўсе і Міхасёвы... Прапала праца мая... За што плыты ганяў! Што рабіць?

— Я казаў, як рабіць,—скрывіўся Андрэй.

— Дурань ты! Чаму-ж ты не ўгаварыў мяне. Ты-ж знаў, што так можа здарыцца, ты-ж малады. Лайдак ты! А яшчэ і комсамолец...

Мацьвей стаяў і глядзеў на ладонь і вадзіў па ёй пальцам, раскідаючы ператочаныя паперы.

Андрэй стаяў ля коміна. Яму было шкода і бацькі і грошай і ўсяго таго, што прыносіць чалавеку часамі гора і нуду. Яму было шкода гэтай постаці бацькі, які жыў па свойму і гэтай яго мазольнай далоні.

Мацьвей стаяў, успамінаў плыты. Сінюю ваду. Прыстань і далёкага сына Міхася.

За вакном расьвітала вясна, гойдалася бяроза пад страхою і Мацьвей крыкнуў:

— Не адста-а-ва-й Макар!.. А яшчэ й комсамолец!..

---

## Хмель раніцы

С. Ліхадзееўскі

Будзіць вёску сьпевам
Певень пад паветкай,
Туманы ўвабралі
Шэрыя палеткі.

Выглядае сонца
З-за узгорку вежы.
Ўвесь прастор набракнуў
Нечым вельмі сьвежым.

Цішыня навокал,
Ня чуваць і ветру.
Радасна п'юць грудзі
Сьвежае паветра.

Здорава на лузе,
Здорава на полі.
Галава п'янее
І нічога болей...





Малюнкі Акуновіча, селяніна в. Боркі Узьдзенскага раёну

## Паўставала сонейка

(З народнага)

Юрка Лявонны

Паўставала сонейка,
Паўставала ў чырвані,
Залаціла кудзеры верхавін.
Смутак—боль хвілінавы,
Смутак—з сэрца вырвем мы,
Смутак у люстранасьці—не лаві!
Пройдзе рань іскрыстая,
Пройдзе, далі роспачы,—
Кіне сонцу з ветрыкам пацалунак.
Ты ня стой на камені,
Ты ня стой галосячы
Ты ня выльеш горакай ды на струнах,

—Бо мінецца так яно,
Бо пахучай кветкаю
Будзе радасьць палкая шалясьцець.
Загукаем ранішай,
Загукаем гэткаю,
Калі зьнікне прыкрасьцю чорны цень...
У бяздоннай далечы,
У гарачым вечары
Раскудзеліць шэпаты шолах баравы.
Запылаюць зорачкі,
Запылаюць сьвечамі,
Запылаюць ясымі сярод май-травы!..

# Два стрэлы

## Тарас Колер

У адзін золкі вечар на балоце Качаны прагучэў сьпярша адзін, а потым другі стрэлы. Рэха падхапіла іх і, ператвараючы гук на новыя лады, панесла далёка ад мейсца здарэньня. І ўжо калі замерлі апошнія перабоі рэха недзе ў полі, з цемені, дзе прагучэлі стрэлы, пачуўся жалобна-палахлівы крык, падобны да плачу.

* * *

Я, з Міхасём Лазоўскім, варочаўся з паляваньня дахаты. Удала праведзены дзень цешыў нас, як малых дзяцей. Хоць мы, па праўдзе сказаць, і выхадзілі за дзень добры кавалак балота, але на нагах трымаліся яшчэ моцна. Гэта, мусіць, залежала ад удачы, якая, кажуць пажылыя людзі, прыдае сілы і старым.

На адным з мастоў, пабудаваным на балотнай канаве, мы супыніліся і, прыпёршыся да бакавін мосту, закурылі дамарослага тытуню. Слабы вецер шалясьцеў у замёрзлым вецьці лазьняку і кружыў у паветры дробныя сьняжынкі. Часамі прарываліся хмары і мяккае сьвятло месяцу слалася па выраўнаванай сьнегам зямлі.

— А ўсё-ж такі аднаму неяк страшна, каб давялося начаваць цяпер у гэтых кустох—кажа Міхась.—Удзень, здаецца, палез-бы чорт ведае ў якія нетры, а ноччу неяк боязна праходзіць па самым знаёмым месцы.

— Прывычка!—кажу я.—Калі мне было гадоў чатырнаццаць, я з бацькам паехаў касіць сена вёрст за дваццаць ад дому. За два дні аблажылі ўсю траву, а сонца ні разу не паказалася. „Дай, кажа бацька, я паеду дахаты, а ты тут пабудзь. Выгляне сонца, падварушыш пракосы, а там і я над'еду“.

Астаўся я адзін на сенажаці. Навокал вёрст за шэсьць жывое душы ня знойдзеш: мы першымі пачыналі касіць атаву. Прымайстраваўшы будку да стогу і аблажыўшы яе сырою травою, я залёг спаць.

Праз некаторы час я прачнуўся ад холаду, і выглянуў з будкі. На небе разышліся хмары і з далёкай вышыні паблісквалі холадам зеленаватыя зоры. Усюды было ціха. І раптам гэта ціш пачала запаўняцца нейкімі ціхімі гукамі. Потым гэтыя гукі мацнелі, шырыліся, прабіраліся ў нутро чалавека, пакідаючы там спалох. І калі гэтыя гукі паўтарыліся недзе бліжэй, я пазнаў іх: гэта вылі ваўкі.

Жудасьць апанавала мяне, чатырнаццацігадовага хлапца, пакінутага ноччу на балоце. А ваўкі ўсё набліжаліся разам з сваім агідным гарэзьлівым выцьцём.

Я схапіў малаток і пачаў біць па гнуткім палатне касы. Палахліва—прызыўны звон далёка разнёсься ў балотных кустох. Раптам сьціхла выцьцё і толькі спуджаная з кала стажарні нейкая птушка трывожна замахала ўцемені крыльлямі.

— Ну, а што-ж было далей?—спытаў Міхась.—Ваўкі больш ня трывожылі?

— Так, больш я іх ня чуў у гэту ноч, але ня клаўся спаць да самай раніцы. Другую-ж ноч правёў больш спакойна, і калі на чацьвертую ноч зноў пачуў я іх песьню, я нават з будкі ня выходзіў: адчуваў менш страху...

Я ня скончыў. Востры сноп агня бліснуў у кустох, потым тугі гул стрэлу разбудзіў балотную ціш. Яшчэ раз бліснуў агонь і пасьля стрэлу пачуўся крык аб дапамозе.

Прывычным рухам схапіў Лазоўскі за шыйку сваёй цэнтралкі, і, пераскочыўшы бакавіны мосту, мы пабеглі па замёрзлай канаве ў гушчар кустоў. Я чуў, як кінуўся за мною, пасьлізнуўшыся на лёдзе, Лазоўскі, але ня супыніўся яму дапамагчы і пабег далей. Канава, як доўгая роўная дарога, пашла ў правы бок, а крык і трэск лам'я я чуў кроках у сотні перад сабою.

Я добра рвануўся, прабіраючыся праз апошнія кусты. Адна нага была зусім

разута, і лапаць-атопак цягнуўся толькі на аборы. Пры сьвеце месяцу быў відаць на галяўцы нейкі вялізны жывы клубок. Нешта гырчыць, моцна сапе і стогне, нацрываючы апошнія сілы. У буры сьнежнага пылу неразабраць дзе, хто і каго душыць. Мы падбеглі бліжэй і, ўзяўшы на спагатову стрэльбы, крычым. Потым, няпрыстаўляючы стрэльбы да пляча, я выстраліў уверх.

Раптам, пасьля выстралу, распаўся клубок. Нешта вялікае, ростам больш сабакі, кінулася ў кусты. Тры выстралы, адзін мой, а два другія—Лазоўскага—супынілі шалёны бег зьвера.

Я ня ведаю, што гэта было: было жадан не яшчэ жывога воўка, які адчуваў вязухільную сьмерць, ці гэта вышла мімаволі,—воўк тонка, як-бы скардзячыся на свой лёс, завыў, харкаючы на сьнег крывёю. Вярсты за дзьве адазваўся глухім выцьцём другі, шэры. Баючыся, каб нязьбегліся з усяго балота ваўкі, мы заклалі новыя патроны і выстралілі некалькі разоў.

— Што гэта, чалавеча, з вамі тут вышла?

Той, да каго мы зьвярнуліся з гэтым запытаньнем, цяжка падняўся з акрываўленага сьнегу. Глянуў у бок, дзе ляжала яго стрэльба з адбітай ложай, потым правёў рукою па твары, як-бы што ўспамінаючы, і прагаварыў:

— Пакуль яшчэ, дзякуючы вашай дапамозе, нічога ня вышла. А каб вы не падасьпелі, то, напэўна, не вячэраў-бы я сёньня дома. І ўсё з-за гэтай паляўнічай зайздрасьці, каб яна агнём пайшла!

Было позна і з усходу пачаў дзьмуць халодны вецер. Цёмныя хмары пасунуліся на Захад, высыпаючы на зямлю дробны сухі сьнег. Жалобным шорахам загаварылі вузлаватыя кусты лазьняку.

Мы ўтрох варочаліся да хаты. Сьпераду ішоў Лазоўскі, за ім наш новы, знаёмы—Тодар Пракопчык—і я. Калі мы выбраліся з зарасьніку на дарогу, Тодар першым пачаў гаворку:

— От ты й ведай, дзе чалавек паваліцца. Зусім ня думаў, што воўк можа чалавека аблажыць. Ды, каб сказаць гэта было з маладым хлапцом, а то я, стары паляўнічы, які не адзін дзесятак шэрых перапусаў за свой век, трапіў, урэшце, сам у іх лапы.

— Няўжо гэта зьвярына адна швэндалася па кустох?—спытаў я.—Колькі я ведаю, ваўкі рэдка ходзяць узімку па адным.

— Можа яно, як часта пішуць у кніжках, і ня можна, каб гэта ваўкаразьзё блыталася ў зімнія ночы па адзінцы, але вось вам факт гэтага: на мяне нападаў адзін воўк.

— Цяпер з гэтага факту—кажа Лазоўскі,—добрая шкура выйдзе. Заўтра раніцою трэба прыйсьці яго абяловаць.

— Дык вось,—пачаў зноў Пракопчык, перакінуўшы рулю стрэльбы з аднаго пляча на другое, — варачаюся я дахаты дый думаю сабе, як гэта тхароў падсачыць ды пастку на іх паставіць, а то ўсіх курэй перадушаць. Ды і мая гаспадыня раззлавалася:—Ты, кажа, будзеш бегаць за здохлымі зайцамі да таго часу, пакуль тхары ўсіх курэй не перадушаць! Сёньня зноў тром галоўкі паскручвалі.

Толькі думаючы пра гэта, я хацеў закурыць люльку, як раптам шасьць шэры з-за куста. Стаў кроках у дзесяці і глядзіць ня мяне. Зьняў паціху я з плеч стрэльбу, ды бахнуў. Ну, а далей ня ведаю, што з чаго пачалося: памятаю толькі, што гэта ня надта спадабалася ваўку, бо, лязнуўшы галоднымі зубамі, ён учапіўся мне ў нагу і паваліў на зямлю. Аказалася, што я папаў яму не ў галаву, а толькі перабіў пярэднюю нагу.

Тодар ня скончыў і з стогнам схапіўся рукою за свой бок.

— Што такое ў вас?—кінуліся мы да яго.

— І тут гэта падла паспрабавала зубамі. Баюся толькі, ці не шалёны быў.

На другі дзень, ня гледзячы на дрэннае надвор'е, мы пашлі зьдзіраць скурку з шэрага. Але па тым месцы, дзе пакінулі забітага зьвера, нічога не знайшлі і толькі гульлівы вецер зносіў з палянкі

ў кусты шэрсьць, замятаючы сьнегам крэў і воўчыя сьляды. Ноччу тут была плойма ваўкоў і яны, відаць, з смакам зьелі свайго хаўрусьніка.

* * *

Праяджаючы аднаго разу праз вёску, дзе пражывае Тодар Пракопчык, я спытаў в возу ў стрэчнага гаспадара, як жыве мой знаёмец.

— А,—нічога адказаў гаспадар.—Праўда, як быў папаўся ваўку ў зубы—дык чуць адратавалі ў бальніцы. Але цяпер выздаравеў і цягае па крысе лісоў з Качанскага балота.

# З краіны чорных людзей

**Б. Каурскі**

## Чорныя і белыя

Пад паўднёвым сонцам, сярод пальм і іншых дзіўных дрэваў і расьлін, у тэй краіне, дзе надзвычайна ўрадлівая зямля раптам мяжуецца з прасторамі пескавое пустэчы—у Паўднёвай Афрыцы жыве шматмільённы народ —Нэгры. Нэгры—„чорныя", чорныя за тым, што цела ў іх зусім чорнае, такому колеру іхняго цела спрыяе вялікая гарачыня афрыканскага сонца.

Там-жа жывуць і белыя людзі. Гэта прадстаўнікі самай моцнай захопніцкай дзяржавы Англіі. Тае дзяржавы, якая зьяўляецца самай яскравай прадстаўніцай буржуазнай культуры. І якая, дзякуючы гэтай-жа культуры, дзякуючы дасягненьням гэтай сваей культуры, мае мільёны самых сапраўдных нявольнікаў. Уся Паўднёвая Афрыка, з усім яе насельніцтвам—нэграмі, зьяўляецца нявольніцай Англіі—ангельскай колёніяй. Нэгры—не гаспадары ў сваей краіне. Яны толькі рабочая сіла для „культурных" ангельцаў і іх краіна, іх радзіма—месца, дзе ангельцы набываюць свае багацьці, нажываюць свае капіталы. Адкуль яны вывоцзяць усё, што толькі можа спатрэбіцца на іх заводах і фабрыках. Для гэтага-ж наяжджаюць сюды і жывуць тут белыя, карыстаючыся сваёю сілай „культурных" людзей.

Чорныя займаюцца земляробствам, наймаюцца ў капальні. Працуюць шмат, іх праца каштуе вельмі танна. Сваей зямлі, чорны амаль што ня мае. Яе скупілі белыя, якія прыехалі ў Афрыку толькі дзеля таго, каб добра пажыць і набіць кішэні. Гэта ім удаецца. Чорныя селяне, зямлю якіх загроб ангелец, павінны былі ці ісьці ў капальні—ці наймацца к беламу. У апошняга яны робяць усё, нават возяць вазы, цягаюць плугі—робяць коньскую работу.

Свае кавалкі зямлі апрацоўваюць нэгры старымі спосабамі. А калі і загучыць дзе трактар, дык ён нясе не вызваленьне нэгру, а яшчэ большае прыгнечаньне. Бо ад гэтага багацее ангелец, а нэгр тады яшчэ большым становіцца нявольнікам. Вось чаму чорныя ня любяць гэтых машын, якія прывозіць



Нэгрыцянка з дзіцем.

іхны белы прыгнятацель, што няпрошаным госьцем зьявіўся сюды, каб сілай забраць сабе ўсе багацьці гэтай краіны і зрабіць галодным старцам сапраўдных гаспадароў яе.

Вялікія падаткі душаць нэграў.

Жывуць нэгры ў маленькіх шалашах—хатках сплеценых з трысьніка. Яда ў нэгра—простая. Ходзіць ён амаль што голы.

За апошнія часы пачалі рабіць убраньне на грудзёх і шыі. Некаторыя нэгрыцянскія плямёны носяць сандалі і вопратку. Усе хатнія рэчы, сельска-гаспадарчыя прылады—усё зроблена рукамі самога нэгра.



Белыя перасяленцы ў Паўднёвай Афрыцы.

Апроч ангельцаў-абшарнікаў, якія жывуць тут у сваіх маёнтках, тут яшчэ ёсьць і такія белыя, якія панаяжджалі сюды, думаючы знайсьці тут заробак. Але тут яны сустрэліся з тубыльцамі нэграмі, якія за безцань працуюць у абшарнікаў, абы толькі пражыць. І вось гэтыя белыя, што думалі знайсьці сабе тут заработак, апынуліся ў дрэнным становішчы. Такіх у Паўднёвай Афрыцы сабралася шмат, пакінуўшы сваю сям'ю, альбо з сям'ёй яны паасталёўваліся ў гарадох. Наняць кватэру ў іх няма за што, і яны жывуць альбо як брадзягі, альбо у шалашах каля гораду.

Жыцьцё жанчыны ў Паўднёвай Афрыцы горшае чым мужчыны. Жанчына роўна з мужчынам працуе і на палёх і ў капальнях. Белыя ня вельмі ахвотна-б наймалі жанчын але іх сіла таней.

У час цяжарнасьці жанчыне нічога ня плацяць, калі яна не працуе. Вось чаму яна павінна і раджаць за працай.

## Іншыя афрыканскія плямёны.

Ёсьць у Паўднёвай Афрыцы яшчэ так званыя пастушаскія народы, жывуць яны ў стэпах, Займаюцца жывёлаводзтвам, галоўным чынам малочным жывёлаводзтвам.

Рагатая жывёла—усё багацьце пастухоў. Яе рэдка рэжуць на мяса, галоўным чынам, выкарыстоўваюць яе дзеля малочных продуктаў. Жывёлаводзтва цалкам знаходзіцца ў руках мужчын, жанчына-ж у гэты час працуе на зямлі. Ня гледзячы на тое, што пастушаскія плямёны маюць шмат жывёлы — яна зусім не выкарыстоўваецца дзеля апрацоўкі зямлі.

Зямлю жанчыны апрацоўваюць матыкамі. Жывуць пастушаскія плямёны — групамі. Паміж групамі часта бываюць войны.

Жывуць яшчэ ў Паўднёвай Афрыцы Бушмены.

Яны займаюцца галоўным чынам, паляўніцтвам Жывуць яны ў Паўднёва-афрыканскай пустэчы Камахіры.

Паляўніцтва іх вельмі цікавае. Яны ня маюць паляўнічых стрэльбаў. Яны карыстаюцца дубінкамі, лукам (з атручанымі стрэламі) і іншымі падобнымі прыладамі. Паўднёва-афрыканскія народы „Банту"—добра апрацоўваюць і вырабляюць мехавыя вырабы, вырабы з сланёвай касьці і жалеза.

Вядома, іх вытворчасьць адмірае. Фабрычныя эўропэйскія тавары выцясьняюць іх вырабы.

Як бушмэны, так і народы „Банту" і пастушаскія народы—няпісьменныя. Трымаюцца розных забабонаў. Кланяюцца зробленым з дрэва багом. Але трэба адзначыць, што за апошнія часы, у зьвязку з рэволюцыйнай пропагандай сярод тыбульцаў пагдядаецца некаторы занепад рэлігіі.



Нэгры будуюць сабе шалаш.

## Вызваленчы рух

У апошнія гады ў Паўднёвай Афрыцы пачаў узрастаць рэволюцыйны рух. Але тут рэволюцыйны рух сустракае вельмі шмат цяжкіх перашкодаў. Першая, вельмі вялікая перашкода гэта тая, што амаль 95 ці 98 процантаў усяго насельніцтва Паўднёвай Афрыкі—няпісьменныя. Векавое прыгнечаньне зрабіла іх пакорнымі. Яны баяцца ўваходзіць у які-небудзь саюз або партыю, бо тады цяжэй дастаць працу.

Але ня гледзячы на ўсе гэтыя перашкоды, туземцы маюць свой „Прамыслова-гандлёвы союз", які налічвае ў сваіх шэрагах больш 50 тысяч сяброў. Гэты союз шпарка расьце, асабліва ў апошнія часы. Саюз выдае сваю часопісь на ангельскай і тамашніх мовах—Сэсута і Зулула. Улада і паны стараюцца перашкодзіць працы гэтага саюзу. Бываюць часы, калі сябрам камітэту саюзу забараняклі езьдзіць па вёсках і гарадох. Так, напрыклад, старшыні Клімэнту Кадалі было забаронена езьдзіць па вёсках.

Белыя рабочыя вельмі цяжка паддаюцца агітацыі і ў комуністычных шэрагах іх мала. Гэта, часткова, таму, што белыя, ня любячы чорных тубыльцаў і ня ідуць у тыя організацыі, куды на роўных правох уваходзяць чорныя.

Вось некалькі вельмі цікавых прыкладаў. Ужо шмат год, як дзень першага мая зьяўляецца днём адзінства рэволюцыйных організацый. Гэты дзень сьвяткавалі і комуністыя і рабочая партыя і профсаюзы і іншыя організацыі. У гэтым годзе прамыслова-гандлёвы саюз таксама хацеў прыняць удзел у першамайскай дэмонстрацыі. Як толькі аб гэтым даведаліся некаторыя організацыі, яны паднялі протэст супроць таго, каб „вускаць у дэмонстрацыю чорных".

Такім чынам, было дзьве дэмонстрацыі—адна белых рабочых, другая чорных рабочых і сялян. Дэмонстрацыя чорных налічвала больш прысутнічаючых.

Комуністычнай партыі шмат даводзіцца працаваць сярод белых пролетарыў. Сярод іх таксама шмат няпісьменных, але сярод чорных лягчэй працаваць, у якіх ня так моцна жыве варожы дух супроць белых пролетараў. Яны неяк хутчэй пачынаюць разумець, што іх ворагі не такія самыя пролетары—белыя рабочыя, а белыя гаспадары—паны капіталістыя.

Вызваленчы рух коленіяльных народаў з кожным годам шырыцца. Ён ахоплівае ўсе краіны, падняволеныя ўсясьветнымі захопнікамі. Прыклад гэтаму, асабліва яскравы прыклад, бачым цяпер у Індыі, таксама ангельскае калёніі, дзе індусы павыганялі з гарадоў прадстаўнікоў ангельскай законадаўчай камісіі і ўстанаўляюць сваю конституцыю (закон). Індусы заявілі—абыйдземся і без апекі няпрошаных ангельцаў.



Завадскія страусы ў паўднёваў Афрыцы.

Нацыянальнае вызваленьне становіцца і соцыяльным вызваленьнем і тады яно вядзе да перамогі. Нэгры ўжо пачынаюць выходзіць на шлях гэтага вызваленчага руху.



# Вэнгэрская пролетарская літаратура

## Зьм. Сьнежка

Нідзе ні ў адной краіне літаратура ня была так моцна зьвязана з політычным жыцьцём краіны, як у Вэнгры. Вось некалькі фактаў, якія пацьвярджаюць вышэйсказанае. Калі прамысловасьць Вэнгры разраслася настолькі, што ўнутраны рынак ужо не здавальняў прамысловасьць—апошняя знайшла шляхі для збыту тавараў на міжнародным рынку. Вось гэта сувязь з усясьветным рынкам—з рынкам Эўропы—і адлюстравалася ў літаратуры.

«Орыентацыя на Захад»—стала лёзунгам дню вэнгэрскай літаратуры. Пачала выходзіць часопісь пад назвою „Заход“, якая і зьявілася праваднікам новых літаратурных плыняў Захаду ў вэнгэрскую літаратуру. Усе „модныя“ эўропэйскія літаратурныя плыні знайшлі сабе месца ў вэнгэрскай літаратуры. «Заходнікі» (паэты А. Адзі, Бабіч, раманісты Мурыц і інш.) унесьлі ў літаратуру Вэнгры таго часу шмат новых жыцьцёвых матываў.

Што яшчэ асабліва характэрна для вэнгэрскай літаратуры, гэта яе цесная сувязь з прамысловым капіталам. У часе вайны, якая вельмі пашкодзіла прамысловасьці, літаратура выступіла як опозіцыйна настроеная—пацыфістская літаратура. (Была супроць вайны).

Гэтыя мотывы супроць вайны вельмі яскравы для творчасьці паэтаў і пісьменьнікаў з групы «Заход».

Значна пазьней на літаратурнай ніве Вэнгры зьяўляецца група «Сеньня». Гэта група дробнага мяшчанства. Яна несла некую «рэволюцыйнасьць» у літаратуру таго часу. Гэта «рэволюцыйнасьць» выяўлялася ў тым, што група „Сеньня“ дэкляравала «змаганьне з буржуазным бытам», з «мастацтвам дзеля мастацтва».

Гэтая група ня мела вялікага ўплыву на шырокія колы грамадзтва, таму што як творы, так і часопісь поэтаў і пісьменьнікаў групы «Сеньня» па мове былі вельмі далёкі ад таго, каб іх разумелі масы рабочых і сялян.

Гэтая група мела вялікае значэньне ў тым, што яна дапамагла распаду буржуазнага мастацтва. У 1918. годзе гэта група раскалолася. З яе вышлі некалькі пісьменьнікаў, якія заснавалі першую часопісь пролетарскай літаратуры ў Вэнгры.

Буржуазная літаратура засталася, як і раней, на баку прамысловай буржуазіі.

Пролетарская рэволюцыя ў Вэнгры значна дапамагла стварэньню пролетарскай літаратуры. З групы „Заход“ і „Сеньня“ выходзяць поэты і пісьменьнікі, як Габор, Барта, Мац, Ланы і інш., якія ў далейшым зьвязваюць сваю творчасьць з пролетарыятам.

Найбольш перадавымі вэнгэрскімі пролетарскімі пісьменьнікамі зьяўляюцца тыя пісьменьнікі, якія прышлі ў літаратуру сумесна з комуністычным рухам. Да такіх пісьменьнікаў трэба аднесьці—Бэлу Ілеш, А. Гідаш, Залку і інш.

Бэла Ілеш зьяўляецца амаль што адным з лепшых пролетарскіх пісьменьнікаў Вэнгры. Яго тэма заўсёды шырокая соцыяльная. Так аповесьць «Мікола Шугай» дае апісаньне сялянскіх паўстаньняў у Прыкарпацкай вобласьці. М. Шугай—імя любімага героя сялянства—паўстанца, памяць аб якім жыве сярод сялянства ў сьпевах і легендах.

У аповесьці—Бэла Ілеш дае злосную сатыру на рэспубліканскую, дэмократычную,—поўную бюрократызму—Вэнгрыю.

Бэла Ілеш, як і шмат другіх вэнгэрскіх пісьменьнікаў, эміграваў у сваёй краіны, і жыве зараз у СССР.

Усе пролетарскія пісьменьнікі Вэнгры аб'яднаны ў «Саюзе вэнгэрскіх рэволюцыйных пісьменьнікаў і мастакоў».

Шмат поэтаў і пісьменьнікаў высланы ўрадам за межы, дзе яны і пішуць свае творы. Частка поэтаў засталася ў Вэнгры, дзе працуе ў вельмі цяжкіх умовах.

Саюз выдае сваю часопісь «Серп і молат», якая часта конфіскуецца вэнгэрскім урадам.

Пролетарскія пісьменьнікі Вэнгры зьяўляюцца моцным атрадам рэволюцыйнага пролетарскага руху Вэнгры.



# Агляд вершаў надсланых у рэдакцыю „Чырвонага Сейбіта“

## Пятро Глебка

### III Рыфма

Вершы могуць быць з рыфмаю і бяз рыфмы. Нярыфмованыя вершы завуцца белымі.

Што-ж такое рыфма і для чаго яна патрэбна?

Рыфмаю завецца сугучнасьць двух ці некалькіх слоў, у якіх націскныя галосныя гукі аднолькавыя, а ўсе чарговыя гукі за націскным да канца слова гучаць прыблізна аднолькава. Напрыклад: горы—узоры; вязка казка—і г. д.

Калі словы, якія рыфмуюцца, канчаюцца націскнымі складамі, дык гэта будзе рыфма мужчынская; а калі апошні склад не націскны, а націскны стаіць перад ім, дык гэта жаночая рыфма. Напрыклад:

«Чытаеш часта у газэце
пра вёску і яе жыцьцё,
што робіцца адзе на сьвеце
і якаво сялян быцьцё
(з вершу Гульбы—«селькор»).

Тут рыфма «газэце—на сьвеце»—жаночая, а «жыцьцё—быцьцё—мужчынская».

Ёсьць яшчэ рыфма дактылічная, якая ў вершах вясковых аўтараў сустракаецца вельмі рэдка. Дактылічнаю рыфмаю завецца такая, у якой націск на трэцім складзе ад канца (ненаціскныя склады павінны так-жа быць падобнымі). Прыклад — «цалаваліся - уздымаліся». У вершах вясковых аўтараў не знайшоў ніводнай дактылічнай рыфмы, нават, для прыкладу).

Калі мужчынская рыфма канчаецца галосным гукам, дык абавязкова павінен супадаць папярэдні зычны гук, напрыклад—«вясна-віна». Амаль усе аўтары, аднесеныя да другой катэгоры (не кажу ўжо пра першую) гэтага правіла ня выконваюць: Зміцін рыфмуе—«журбы-вясны», «багне—КПБ»; Янка Явар рыфмуе—«маё--трысьцё», «страла--здалека»; Я. Бярозкін рыфмуе—«ідзе—плыве»; Янка Акуліч рыфмуе—«у траве—у турме» і г. д. Тут супадаюць толькі галосныя націскныя, а папярэднія зычныя не, таму і рыфма няправільная, бо ніякай сугучнасьці не адчуваецца.

Калі-ж мужчынская рыфма канчаецца зычным гукам, дык абавязкова павінен супадаць толькі націскны галосны, а папярэдні ненаціскны можа і не супадаць, аднак сугучнасьць будзе адчувацца. Напрыклад, у вершы Чарнышэвіча Ар. рыфмуецца «верхавін—адзін» дзе папярэднія зычныя «в» і «дз» не супадаюць, а сугучнасьць усё-ж адчуваецца.

Рыфма лічыцца правільнаю і даволі звонкаю і ў такім выпадку, дзе рыфма канчаецца двума галоснымі, але папярэдні націскному не супадае, а супадае толькі націскны, як напрыклад—«мая—буяць». Тут «а» і «у» не супадаюць, аднак рыфма даволі звонкая, праўда гэту звонкасьць павялічвае зык «ць», (аб гэтым мы скажам у другі раз, калі будзем гаварыць аб няпоўных рыфмах), але і без яго будзе сугучнасьць.

Шмат хто рыфмуе так:

«Пачарнелі паля,
стаў вясёлы той лес,
Разбудзілісь мара,
белы сьнег ужо зьлез
(з вершу Я. Акуліча «Вясна».

Я не гавару тут аб русіцызмах—паля, мара, (па беларуску трэба—палі, моры), а зазначу толькі што рыфмаваць «паля» і мара ніяк нельга, хоць націскныя галосныя «я» і «а»—аднолькавыя, але адзін з іх «я»—мяккі, а другі—«а»—цьвёрды, і, як бачым, сугучнасьці не адчуваецца.

Жаночая рыфма такіх правіл, як мужчынская не вымагае. Ужываюцца напрыклад, рыфмы такія—«сырой--дарогай», «кулаком—брухачом», дзе перадналіскныя зычныя не аднолькавыя, аднак сугучнасьць ёсьць, у той час як пры мужчынскай рыфме ў такіх выпадках сугучнасьці няма. З гэтае прычыны жаночыя рыфмы ў вясковых аўтараў больш багатыя і звонкія.

Спынюся яшчэ агулам на рыфмах. Лічыцца самаю лепшаю рыфмаю такая, дзе рыфмуемыя словы не аднолькавыя часьціны мовы. Напрыклад--«далі--гукалі», «сіні--гіне».«дровы--новы». Тут у першым прыкладзе рыфмуецца—назоўнік і дзеяслоў; у другім—прыметнік і дзеяслоў; у трэцім—назоўнік і прыметнік. Самаю слабаю лічыцца рыфма дзеясоўная, як—«бралі--кралі», «пайшоў—знайшоў», «пілаваць—«гандляваць», «стаць—даць» і г. д. Такіх рыфмаў у вясковых аўтараў больш усяго. Карповіч рыфмуе амаль усюды—«гуляць--разганяць», «бяруцца--дзяруцца»«вядзецца—застанецца», «ішлі-ляглі»; Агіевіч—«уступіла--ўнасіла», «цалаваліся--ўздымаліся» і г. д. Такая рыфмоўка лічыцца беднаю і не трэба ўнікаць.

У чарговы раз спынімся на няпоўных рыфмах. Правілы, якія былі вышэйпададзены часамі прынепоўных рыфмах, парушаюцца аднак звонкасьць парушаецца мала. На няпоўных рыфмах трэба будзе спыніцца таму, што яны ў вершах вясковых аўтараў амаль пераважаюць рыфмы поўныя.





У чырвонаармейскім клюбе.

# Бібліографія

## Беларускі сялянскі настольны каляндар. Выданьне „Беларускай Вёскі“

Каляндар зьяўляецца вельмі каштоўным штодзенным справачнікам селяніна. Кожны, нават мала пісьменны вясковы гаспадар, знойдзе належныя парады, ці то ў адносінах да сяўбы, ці то па судовых справах, ветэрынарыі, мэдыцыне—усё ён, хоць у кароткім нарысе, але знойдзе. Селянін не пытаючы нават і агранома, узяўшы каляндар у рукі, можа сказаць, якая яму заўтра будзе работа. Зімовую вольную хвіліну селянін можа скарыстаць разумна.

А ў адносінах да матар'ялу, які асьвятляе веснавую ці летнюю працу селяніна, дык і не прыходзіцца гаварыць, тут коротка напісана што рабіць дзеля палепшаньня сенажаці, асушкі балот. Процьма іншых неабходных парадаў. Каляндар не толькі парадчык гаспадару, але і гаспадыні. Напэўна кожная вясковая дзяўчына з падзякаю да рэдакцыі прачытае ў календары аб тым, як хутчэй выбеліць палатно. Або, яшчэ лепш падзякуе за тое, што навучаюць адмываць каляніцу ад суконок і шмат подобных.

Акрамя таго, што каляндар дае парады, ён шмат зьмяшчае матар'ялу аб нашай краіне, яе становішчы, гістарычных цікавых падзеях, якія адбываліся на гэтым-жа месцы, дзе мы жывем. Гэта таксама вельмі цікава. Або яшчэ лепей, селянін жывучы дома на вёсцы, можа сабе ўявіць аб тэй ці іншай краіне. Каляндар цікавы па зьместу. Будзем спадзявацца, што кожны селянін падпісацца на „Беларускую вёску“. якая дае шмат парад, а з гэтым і атрымае каляндар.

Вашкевіч.

Слуцак.

## «У часе адпачынку». Зборнік вясёлых забаў для дзяцей. Злажылі А. Якімовіч і З. Паваротны. В-ва «Чырвоная Зьмена». Менск, 1927 г. Стар. 101, цана 60 кап.

Дзіцячых кніжак у нас пакуль што мала. Вось кніжачка, укладзеная Якімовічам і Паваротным. У ёй зьмешчана: «Лікі—вяліканы», «Паперы ножны і монэта», «Вопыты з газэтным лістом», «Усё можам, усё ведаем», «Задачы і галаваломкі», «Сьпяваньне з галаваломкамі», «Гумар і жарты», «Гульні і штукарствы»і, урэшце, «Адказы і адгадкі». Увесь матар'ял цікавы і прымушае падумаць. Карысьць для падлетка ад гэтай кніжачкі вялікая, калі ён папрацуе з ёю.

В.

**М. Граеўская. «Як савецкая ўлада ахоўвае здароўе жанчыны і дзіцяці». Менск. БДВ. 1928 г. Стар. 48. Цана 23 кап.**

Гэтая кніжачка належыць да выпуску «Бібліотэкі работніцы і сялянкі». У ёй проста расказана пра ўсе клопаты савецкай улады аб здароўі жанчыны і дзіцяці. Адначасна паказана, як «клапоціцца» аб гэтым у буржуазных дзяржавах Расказана пра ўсе ўстановы, якія для аховы здароўя маткі і дзіцяці створаны ў горадзе і на вёсцы. У канцы кніжачкі падана «Памятка маткі». Кніжачка гэта для работніцы і сялянкі вельмі карысная. Яе пачытаць канечна трэба. Каштуе яна нядорага. К. Г.

**В. Лункевіч. «Падводны сьвет». БДВ Менск, 1928 г. Стар. 68, цана 45 к.**

Мы часамі думаем, што жыцьцё толькі на зямлі, а ў вадзе вось жаба, шчупак ды яшчэ іншая рыба. Сапраўды-ж там ня менш самых рознастайных жывёлін чым на зямлі, ды да таго вельмі цудоўных. Гэтая кніжачка вось і расказвае аб тым якімі істотамі заселен падводны сьвет. Кніжачка напісана цікава. Мае досыць малюнкаў. Таму чытач прачытае яе са здавальненьнем. Нажаль яна крыху задарагая.

Сізы.



# Новыя кнігі

## якія выйшлі ў Беларускім Дзяржаўным выдавецтве і атрыманы рэдакцыяй для водкліку.

«Партыйная грамата»—падручнік палітграматы для гарадзкіх скарочаных школ і камсамольскіх школ II ст. 380 стар. цана 2 руб. 50 кап.

С. Журык «Як выгадаваць добрых парасят». 3? стар., цана 20 кап.

Ц. Гартны. «Урачыстасьць». Вершы. 132 старонкі, цана 75 к.

В. Сташэўс і. «Кацярына». П'еска ў 2-х дзеях. 20 стар., цана 15 кап.

10 год Чырвонае арміі. 60 стар., цана 45 кап.

В. Лункевіч. «Падводны сьвет». 68 стар., цана 45 кап.

М. Граеўская. «Як савецкая ўлада ахоўвае здароўе жанчыны і дзіцяці». 48 стар., цана 23 кап.

Рамаиоўскі і Кручоных. «Цемра». П'еса ў 3-х дзеях. 32 стар., цана 30 к.

З. Хацімскі. Што павінна ведаць сялянка аб працы партыі сярод вясковай беднаты». 60 стар., цана 28 кап.

А. П. Богат. «Работніца і сялянка на абароне СССР». 36 стар., цана 15 кап.

С. Я. Эдмерал. «Што павінна ведаць работніца і сялянка аб пролетарскім судзе і савецкім законадаўстве». 92 стар., цана 35 кап.



# Паштовая скрынка

**Катужэнцу Пятрусю.** У апавяданьні „Шалёная ноч“ Вы хацелі даць малюнак хуліганства на вёсцы і забабонаў. На аснове матар'ялу, скарыстанага Вамі, можна было напісаць апавяданьне, але з гэтай задачай Вы ня справіліся. Апавяданьне Ваша пачынаецца лірычным апісаньнем прыроды, пасьля адразу пераскок да свавольных учынкаў хлопцаў. Далей Вы абы як расказалі пра ўсе гэтыя ўчынкі і саладзенька закончылі: „Я назіраў за рухам вёскі ў гэту ноч і думаў, як цёмны і някультурны людзі, што часам шалеюць“. Наконт гэтага пачытайце ў адным з папярэдніх нумароў „Чырвонага Сейбіту“ артыкул: „Аб голай агітцы“ Вам трэба шмат вучыцца, шмат чытаць, а тады паспрабаваць пісаць.

**І. Дуброўскаму.** Зайдзеце ў рэдакцыю, пагаварыць пра Вашы апавяданьні.

**Я. Зазеку.** Апавяданьне „На зарніцы“ перададзена ў рэдакцыю „Маладняка“.

**П. Гарбацэвічу.** Апавяданьне „ У напальніцу“—ня пойдзе ў друк. Голая агітка за грамаадводы. Непаразуменьні між маткаю і сынам псыхолёгічна ня ўгрунтаваны, паказаны галаслоўна і таму здаюцца псыхолёгічна непраўдзівымі.

**Х. Гранянкову.** „Акорды“—друкавацца ня будуць. Салодкі трафарэт, сантымэнтальнасьць тут, і праменьні сонейка і пацалункі, і чырвонаармейская каманда, і нарэшце „клясавая мараль“. Здаецца вы не сказалі таго, што хацелі сказаць.

Адказны рэдактар Шукевіч-Траццякоў.

1-ая друк. „БДВ“. Галоўлітбел 804.